# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

№ 10-11 Верасень-Кастрычнік 1937 г. Год II



І музыкай сіняй дзесь звоніць далёка
сівое птушынае пер'е...

М. ТАНК

# ЗЬМЕСТ:



---




СКЛАДКІ: 3 зл. 60 гр. на год; 1 зл. 80 гр. на паўгода; асобны нумар 50 гр.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ:
Вільня. Каралеўская вуліца 3-8
Конто: Rozrachunek 91





Рэдакцыйная калегія:

Ф. СТЭЦКЕВІЧ, С. ПАЎЛОВІЧ, М. ТАНК, Р. ШЫРМА і В. ТУМАШ

Рэдактар-выдавец: Ф. СТЭЦКЕВІЧ.

Друк. Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22.

# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

**КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТАРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК**

№ 10-11 Верасень-Кастрычнік 1937 г. Год II

МАКСІМ ТАНК

## ВЫРАІ.

Зноў сярод ніў безканечных, шырокіх
іду, як калісь, у задуме цяпер я;
і музыкай сіняй дзесь звоніць далёка
сівое птушынае пер'е.

Лірыкай восені дыхаюць далі,
бо ў кожнага вырай забраў вельмі многа! —
то дні маладыя, з рабінаў каралі,
то сьпеў на пяшчаных дарогах...

Сьледам глядзіш: столькі ў крыльлях свабоды!
А ўсё-ж ня умеюць бяз болю пакінуць
чубатыя хаты, шнуры, азяроды,
лясы маей роднай краіны.

Потную вецер палошча кашулю.
Ну што адлятаючым скажаш такога?
Мо' крыкнуць ім толькі, каб суму ня чулі:
— Ляціце!.. шчасьлівай дарогі!..

## НАД КУРГАНАМІ.

Заснулі вы, сокалы, рана
ў курганах пяшчаных, спакойных,
між сьцежак закінутых польных,
ў краіне палос і туманаў.

Пад небам шырокім і сінім
над вамі схіліліся ліпы,
і вецер адцьвіўшым язьмінам
пясок залацісты асыпаў.

Спакойна... Ніхто тут ня можа
збудзіць ваша гора былое,—
адны толькі матчыны сьлёзы
яшчэ не даюць вам спакою, —

таму што ў радзімай старонцы
шчасьлівымі, лепшымі днямі
век будзеце вы курганамі
глядзець ў ненагляднае сонца...

# КАЗКА ПРА МЯДЗЬВЕДЗЯ.

Пад шэрую восень, пад верасень месяц,
задумаў жаніцца Мядзьведзь ў цёмным лесе

і кажа сватом: — „Мне шукайце пасагу,
зіму зімаваць трэба мёду і брагі, —

а у мяне ні каня, ні гароду,
падушка і тая з альховай калоды.

За лета снапа мне нажаць не прыйшлося,
то пчол даглядаў, то гнуў дугі, палозьзя.

Няхай сабе будзе нявяжная жонка,
каб толькі я выжыў зіму пад сасонкай"!..

Хадзілі сваты ад Мядзьведзя па лесе,
ўсё дзеўкі шукалі праз верасень месяц.

Хадзілі яны ў Белавеж да Зубрыхі,
да зайцавых дзевак, былі у Казьліхі...

Там ветліва важных гасьцей прынімалі,
крынічнай вадой, мурагом частавалі.

Стараліся ўсе ім у пояс хіліцца, —
сваты былі важныя: Воўк ды Лісіца.

Калі што ня так, дык патрапілі-б самі,
пагладзіць дзе трэба, памацаць зубамі...

Ды важныя дзеўкі былі-б гаспадыні,
каб мелі каўбасаў, курэй, саланіны...

Пашто і шукаць-бы што-недзе другое,
было-б для Мядзьведзя жыцьцё залатое!

А то у Зайчыхі: пасаг — руні жыта,
зімой зледзянеўшая ў полі ракіта.

Ў Казьліхі — зялёны дзядзеўнік ў імшарах,
падушкі з дзяразы, асоту гушчары.

А у Зубрыхі, па ўсей Белавежы,
ня зьлічыш стагоў непачатых і сьвежых...

Ды што з іх сватом і Мядзьведзю сівому, —
язык намазоліш, нагоніш аскому!

Пачулі сваты, што, над Нараччу дзеўка,
ёсьць ў лесе сасновым паджарая белка,

такая вясёлая, з песьнямі, з сьмехам,
зьбірае з ляшчэўніку толькі гарэхі.

Насыпала поўныя куфры, як лёду.
Разкусіш — як сонца, зярнято, як з мёду.

Сказалі Мядзьведзю: — Ёсьць дзеўка з пасагам!..
Прыбраўся Кудлаты у лапці, ў сярмягу,

кашулю узяў, што злупіў у Міколы,
як той бараніў ад яго калісь пчолы;

ўзяў пояс лазовы і кій сукаваты, —
так выбраўся з сьвітай Мядзьведзь наш у сваты...

Такое вясельле магло толькі хіба
быць там, дзе ёсьць Нарач, бор цёмны ды рыба!

Ў цымбалы ігралі шаршні і асвянкі,
ігралі дзень цэлы і ноч да заранкі;

а ў чорным ягодніку з цяцярукамі
ў тахт дзятлы у бубны лупілі насамі;

і там за платамі, дзе жытнія гоні,
пятух памагаў на чырвонай гармоні.

Лявоніху ёмка скакала лісіца, —
бы ветрам, бы жоўтым шумела спадніца.

Аж выйшаў Мядзьведзь, топнуў левай ды правай,
пайшоў прысядаць — замігцелі рукавы.

Скакаць-бы ён мог так дзён пяць ці мо' дзесяць,
адно толькі лапці знасіліся ў лесе,

ды і ў мяне растапталіся лапці...
На трэцюю ноч пачалі раз'яжджацца.

Памалу прайшоў ціхі верасень месяц.
Ляжыць пажывае Мядзьведзь ў цёмным лесе,

ў гушчарах, дзе глуш ды сасновае рэха,
а Белачка носіць ваду ды гарэхі.

Насыплець Мядзьведзь іх у ступу, як лёду,
а зверху як бухне дубовай калодай!

Наесца ды сьпіць ў лагоў'і, як ў палацы,
нат' слухаць ня хоча, хто кажа аб працы.

Пражыў гэнэралам ня мала так часу,
пакуль не хапіла у Белкі прыпасаў.

Ляжыць і раве ён ледзь бор не аглохне:
— „Ой мусіць я хутка памру, або здохну“!..

Лячыла Мядзьведзя Варона - шаптуха,
і Дзяцел стучаў яму трубачкай ў вуха,

і банькі на пяты стяўляла Сарока,
кампрэсы яму прыкладалі пад бокам...

Ды што ні рабілі, ўсё не памагала!
шмат вылізаў лекаў: гусіны, і сала...

Ды што тыя лекі, калі наш кудлаты
з'еў двух дахтароў з Белавежы лычатых!..

Хадзіў тады блізка Цыган хітры недзе, —
прачуў пра цяжкую хваробу Мядзьведзя

і кажа: — „Ты, бацю, ня слухай нікога,
Цыган табе зельля парадзіць другога.

Відаць косьці колець, ня можаш ты сесьці,
ня можаш ты мала, мой баценька, есьці!..“

Ёсьць ў лесе дарога, а з боку паляна, —
лячыў Цыган брагай - сівухай да рана;

яшчэ паіў зельлем салодкім, як мёдам,
спаіўшы Мядзьведзя, прыкуў да калоды,

а посьле усыпаў бярозавай кашы,
павёў яго цешыць людзей па кірмашах.

Перш доўга Мядзьведзь касюрыўся ды охаў,
а посьле зрабіўся такім скамарохам,

дзе толькі ня прыйдзе пад хаты крывыя, —
зьлятаюцца дзеці, дзяўчаты, старыя,

прыносяць салодкага мёду, гарэхаў,
а ён давядзе аж да сьлёз і да сьмеху.

Сьмяюцца і дзеці, і куры і коні,
як ён у шарахаўкі звонкія звоніць;

сьмяюцца асьверы і стрэхі і хаты,
як пойдзе скакаць пад цымбалы кудлаты.

Здаецца няпраўда, што людзі гавораць,
што быў ён жанатым, што быў калісь хворым...

А Белачка там, дзе ёсьць пушча густая,
ў сасновыя куфры гарэхі зьбірае.

Ды добра хавае, каб часам мядзьведзі,
каб іх не знайшлі нат' вясковыя дзеці.

Паджарыя вушкі наставіць — ўсё чуе,
і чорнымі зорка вачыма пільнуе...

А там за сасновым, за лесам, за борам
ах, золатам сінім іграюць вазёры.

А далей ўсё наша зямелька - краіна,
дзе ступіш, то песьня, то казка, быліна...

І сумных нямала, нямала бяз ліку,
але мы іх лепей пакінем вялікім.

А вам, мае братцы, з вачыма, як золак,
аддам усе дзівы тых казак вясёлых.

4.VIII.37 г.

# Кастусь Каліноўскі і паўстаньне 1863 г.

У 1862 г. Кастусь Каліноўскі пачаў выдаваць нелегальна першую беларускую газэту „Mużyckuju Praudu“. Сёлета мінае з тэй пары 75 гадоў, і з гэтай нагоды добра будзе прыпомніць сабе гэтага беларускага паўстанца, што за справу народу злажыў сваё маладое жыцьцё.

„Беларускі народ збудзіўся ў XIX ст. посьле доўгавечнай сьпячкі“, — такі сказ стаўся ў беларускай літаратуры і гісторыі агульнапрынятым. Аднак гэта, прынамсі ў вуснах гісторыка, зьяўляецца вялікай несправядлівасьцяй і крыўдай для беларускага народу. Праўда, што да палітычнага жыцьця гэты сказ, як паэтычная форма, могбы да поўнай меры ўжывацца, але палітычнае жыцьцё далёка не абыймае ўсіх праяваў жыцьця народу. Беларускі народ, хаця і „спала“ ў ім палітычная думка, усёжтакі жыў. Здраджаны асьвечанымі клясамі жыў пад саламянымі стрэхамі, сярод загнаных прыгонам сялян, жыў у іх песьнях, казках, легэндах, мастацтве, абычаях. І хаця гэнага не пабачылі некаторыя гісторыкі XX стагодзьдзя, ведалі гэта Бакунін, Гэрцэн, Огарев *). Не паасобныя адзінкі разбудзілі беларускі народ, але ён сам прамовіў вуснамі гэных адзінак. І гэткае становішча ня толькі не памяншае значэньня такіх, прыкладам, адзінак, як Кастусь Каліноўскі, а наадварот — робіць з іх жывых людзей, перадавую частку нашага народу.

Магутным рэхам адбіўся ў душах сьвятлейшых адзінак Гэрцэнаўскі „Колокол“. Ён клікаў усіх пакрыўджаных, усіх прыгнечаных социяльна і нацыянальна да змаганьня за лепшую долю, за свае правы. Гукі „Колокола“ не маглі абмінуць і Беларусі. Каліноўскі якраз быў узгадаваны на літаратуры расейскіх народнікаў.

Як паўстала і скрысталізавалася палітычная думка Кастуся Каліноўскага?

Бакунін падтрымліваў сярод палякаў думку аб паўстаньні і клікаў іншыя прыгнечаныя народы да супольнае барацьбы. Але барацьбу гэтую ён выабражаў, як змаганьне сялян і работнікаў за социяльнае і нацыянальнае вызваленьне сваіх народаў.

Узгадаваны на гэткіх думках Кастусь Каліноўскі вярнуўся з пецярбурскага унівэрсытэту ў сваю Горадзеншчыну. Тут пад мянюшкай Васіля Сьвіткі вандруючы па вёсках ён прыслухоўваецца да голасу мас. І ён адкрывае вялікую прорву, якая існуе ў той час паміж селянінам-беларусам і спольшчаным панам з аднаго боку, і расейскім чыноўнікам з другога. Ясна, што ён у змаганьні стане па старане селя-

---

*) Бакунін Міхал (1814—1876) — рэвалюцыянэр, б. царскі афіцэр. У 1840 годзе апынуўся за граніцай. Браў удзел у рэвалюцыі 1848 г. Два разы быў засуджаны на кару сьмерці (у Германіі і Аўстрыі), потым „памілаваны“ і ў 1851 г. выданы Расеі, дзе быў замураваны ў крэпасьць, потым высланы на Сыбір. У 1861 годзе ўцякае за граніцу. Памагае польскаму паўстаньню 1863 году.

Гэрцэн Александар (1812 — 1870) — выдатны расейскі пісьменьнік і публіцысты. Выдаваў у Лёндане свой ведамы палітычны двутыднёвік „Колокол“. Таксама падтрымліваў польскае паўстаньне, выступаў проці гвалту чыноўнікаў і памешчыкаў над прыгоннымі сялянамі.

Огарев Мікалай (1813—1877) — паэт, прыяцель і супрацоўнік Гэрцэна.

ніна, а гэта змушае яго кінуць кліч барацьбы супроць адных і другіх.

Ідэёвая лучнасьць з расейскімі народнікамі і беспасярэдня спасьцярогі на вёсцы зрабілі Каліноўскага тым, чым ён ёсьць, г. зн. змагаром за нацыянальнае і соцыяльнае вызваленьне беларускага народу.

Паўстае аднак пытаньне, чаму Каліноўскі бярэ ўдзел у паўстаньні 1863 г., якое мае на ўвеце польскія нацыянальныя інтарэсы, а перадусім шляхоцкі характар?

Бжозоўскі Станіслаў *) у творы сваім „Пломень" праз вусны селяніна, які браў удзел у паўстаньні, так характэрызуе гэтае паўстаньне (а перадусім ягоных кіраўнікоў): — „Каб-ды яны гэтай сялянскай Польшчы не баяліся, каб-ды ім гэтманства і каштэлянства не пахла, я, стары — гавару — ўжо-б на нашай зямельцы ніхто намі не кіраваў. Я да ног падаў розным паном... Крыкнуць на ўсю зямлю: — „Сяляне, землю браць, а ўзяўшы не пазволіць яе адабраць! Яны і Мураўёва не спалохаліся-б"..

Гэты абразок рысуе ўсю трагэдыю паўстаньня 1863 г. Паўстаньне толькі тады магло-б лічыць на перамогу, калі-б патрапіла ўзварухнуць сялянскія масы. Тымчасам, затушаваўшы соцыяльны прабел, яно асталося для польскага сялянства незразумелым.

„Штык я ў партыі кінуў пад ногі", — расказвае той жа учасьнік паўстаньня ў Бжозоўскага, — „калі мне селяніна вешаць казалі. — Шпег ён, — гавораць — ён бацькаўшчыну, народ здрадзіў! — А яго бацькаўшчына і народ мала разоў здраджалі? Якая гэта яму бацькаўшчына? Што ён меў? Панскі бізун і панскую ласку, калі меў прыгожыя дочкі. Яму вы, ваша бацькаўшчына і цар — усёроўна".

І гэтае нявыразнае соцыяльнае абліччa было цьвяком у труну паўстаньня. Селянін не толькі не пайшоў за паўстанцамі, але паверыў агітацыі царскіх слугаў, што паўстаньне было выклікана панамі, нездаволенымі зьнясеньнем паншчыны.

Аднак прыгледзіўшыся глыбей, глянуўшы ў падзямельлі, дзе прыгатоўвалася паўстаньне, мы знойдзем адказ на пастаўленае намі пытаньне. Нацыянальны Камітэт у Варшаве, які падрыхтоўваў паўстаньне, выразна дзяліўся на дзьве варожыя групы. Адну з іх прадстаўлялі белыя, каторыя калі і ўспаміналі пра палепшаньне долі селяніна, то адкладалі гэта на далёкую будучыню і імкнуліся адбудаваць Польшчу шляхоцкую. Другая група складалася з т. зв. „чырвоных", каторыя змагаліся за зьнясеньне прыгону, за дэмократычны лад, за фэдэрацыю з братнімі народамі.

І цяпер, прыпомніўшы палітычныя пагляды Каліноўскага, мы лёкка зразумеем, чаму Кастусь Каліноўскі ўзяў дзейны ўдзел у паўстаньні. Ён у паразуменьні з „чырвонымі" сябрамі Камітэту імкнуўся зьдзейсьніць свае вялікія мэты.

Але гэтыя мэты, як мы бачылі, пакрываліся з мэтамі часткі польскага грамадзянства, а тут адцемім, што ня толькі польскага, але і украінскага, літоўскага і іншых. Дык Кастусь Каліноўскі падняў барацьбу за вольнасьць ня толькі беларускага, але і другіх братніх народаў. Але рэпрэзэнтаваў ён думкі і імкненьні беларускага народу і гэта ставіць яго ў рады беларускіх нацыянальных герояў.

**В. С.**

---

*) Бжозоўскі Станіслаў — польскі філёзоф і ўталентаваны пісьменьнік з канца XIX і пачатку XX ст.

МІХАСЬ МАШАРА.

## НЯ ПЕСЬНІ.

Ня песьні — звоніць ліра,
Ў грудзёх не сьпеўны чар,
А слоў пякучых жвірам
Сыпнуць хачу у твар.

Зьвіняць, як струны, нэрвы.
Трывогай ткуцца дні,
І сьвет зары вячэрняй
Гарыць на далані.

Варожаць непагодай
Клапоты і бяда,
Узорам нейкай моды
На твар лягла жуда.

Ад хаты і да хаты
У ноч і днём — ня раз
Брыдзе, як воўк кудлаты,
І страшыць — недасказ.



Міхась Машара.

* * *

Ні слоў... Ні песьні... Ні малітвы —
Плятуцца думы у разброд.
Ды бунту хмель ў шалёным рытме
Ў грудзёх заводзіць карагод.

Гуляй, гуляй, стары мой дружа!
Скачы з душой на ўсе лады.
Тады сябе, я чую дужым,
Як кроў маю мяцеліш ты.

Трымаць цябе ня буду болей,
А абрытаўшы, як дасюль,
Ня чым згараць душой паволі,
Дык лепш спаліць зараз усю.

Вісяты, 14.IX.37 г.

# Краіна тысячы вазёр.

Так нехта назваў паўночную Віленшчыну. І, трэба сказаць, не памыліўся — там скрозь вазёры. На прасторы самога Браслаўскага павету ёсьць іх раскінутых болей 300. А вялікі-ж вазёрны масыў паўночнай Беларусі абымае чатыры паўночныя паветы Віленшчыны — Пастаўскі, Сьвянцянскі, Браслаўскі і Дзісенскі — і яшчэ цягнецца далёка на ўсход за прыгранічныя стаўбы ў Полаччыну. У гэтым вазёрным масыве ёсьць найбольшыя вазёры Беларусі — Нарач (81 км$^2$), Снуды (64 км$^2$), Дрысьвяты (45 км$^2$), Дрывяты (38 км$^2$) і тысячы меншых, аж да зусім дробрных стаўкоў, параскіданых па лагох палёў і лясоў.

Вазёры, палі ды горы часта з сасновымі ці яловымі барамі, твораць тут нязвычайна харошы краявід, нагадываючы сваім характарам паўночны скандынаўскі ды фінскі, і хіба нічым ім ня ўступаючы. Асабліва харошыя ваколіцы Браслава. Роўная, гладкая, як стол дарога сьцеліцца зрэбным ручнікам, выгінаецца разам з узгоркамі, разам з лагамі. Ровары ветрам нясуцца з гарыцы на гарыцу. Злева і зправа на схонах гор парассьціланыя загоны ярыны. Сям-там на гары горда высяцца выносныя сосны сіняга бору. Лагі блішчаць шэра сталёвымі плямамі вазёрнай вады...

Край паміж Браславам, а Друяй і Дзьвіной — адзін з найпрыгажэйшых куткоў Беларусі, які прышлося бачыць.

Ды вазёры даюць людзям ня толькі красу. Дзікое, крыху скандынаўскае, крыху швайцарскае хараство гэтых зямель, пачынае з кожным годам прыносіць болей і болей карысьці ейным гаспадаром. Вазёры ды лясы цягнуць летам дзесяткі тысяч турыстаў, а з кожным годам лік іх значна павялічываецца. Але галоўнае багацтва, якое даюць вазёры — гэта рыба. Здаўна ўжо пабераажане земляробы раталіся ад бяды возерам. Ці на полі неўраджай, ці сэквэстратар жыць не дае, ці якое іншае няшчасьце ці патрэба — пабярэжны селянін-рыбак бярэ свае рыбацкія запасы, сядае ў човен і едзе на возера. І возера заўсёды памагала. Хаця прыходзілася мокнуць, мерзнуць і добра панатужыцца цягаючы сеці, але прадаўшы рыбу можна было на нейкі час ад бяды адбараніцца. Так было даўней. Пасьля прышлі рыбацкія „ustawy“, каторыя касавалі існуючую на многіх вазёрах свабодную лаўбу. Але людзі, што вырасьлі з возера, добра знаді яго цану. Сваіх правоў баранілі — пайшлі знаныя нарачанскія страйкі. Посьле доўгага змаганьня на Нарачы перамаглі. Загады асталіся загадамі, а жыцьцё тымчасам паплыло сваёй каляінай. Ці на доўга — ня ведама.

---

Многа вазёр у Беларусі. А кожнае з іх мае свой собскі выгляд, свае характэрныя прыкметы. Нарач — сваю веліч. Сьвірское — сваю даўжыню; гэта тыповае морэннае возера — ляжыць, як пасланы між двумя горнымі хрыбтамі доўгі на 13 км. вузкі сіні ручнік. Швакшта мае высокія, зарошшыя зялёным борам берагі. Дрывяты і Дрысьвяты ізноў-жа прыпамінаюць сваей вялічынёй Нарач. Малое лясное вазярцо — Белагалоўе — вельмі цікавае з навуковага гледзішча. Тут кожны наглядна можа пабачыць, як у нас памалу, сотнямі гадоў,

зарастаюць вазёры. На шырыні пару дзесяткоў мэтраў ад берагу паверхня возера ўжо пакрылася грубым, зыбкім тарфяным кажухом. Толькі сярэдзіна яшчэ не зарасла — блішчыць, як разплюшчанае вока. Але і там за адну, другую сотню гадоў рассьцелецца паверху зялёная сенажаць, посьле вырастуць выносныя сосны, ці шырока раскінуцца загоны палёў. Такіх „падзямельных“ зарошшых вазёр ёсьць многа.

Вішняўскае возера — першае з вазёрнага масыву, каторае прышлося нам у дарозе наведаць, — даволі валікае (каля 7км[2]), круглае, балоцістае, парошшае трысьцём і сітой. Крыху воддаль, на высокім узгорку горда, выносьліва паглядае на возера белымі калёнамі белая фасада клясычнага касьцёлу. У бок ад гасьцінца, у старану возера, за кляновымі прысадамі, Вішняўскі двор. Тут радзіўся і жыў слаўны кампазытар Мечыслаў Карловіч, аўтар „Літоўскай Рапсодыі“ — музычнага твору, злажанага з беларускіх народных мэлёдыяў, над якімі пануе мэлёдыя сумнай, працяжнай мясцовай жніўнай песьні „Да пара дамоў, пара“, песьня, якую зрадзілі вякі прыгоннай працы і няволі беларускага народу. Пра сваю „Рапсодыю“ так кажа сам Карловіч: „Starałem się zakląć w nią cały żal, smutek i niewolę wiekuistą tego ludu, którego pieśni w mem dzieciństwie brzmiały“. Дый, праўду сказаўшы, найлепей вякі сваей няволі завaражыў у бяздонную тугу мэлёдыі песьняў сам народ. Карловічу - ж асталося іх толькі сабраць і ўлажыць сваю „Рапсодыю“ *).



У Віленшчыне скрозь вазёры...

Ужо трыццаць гадоў мінае, як маладога кампазытара засыпалі ў горах сьнягі. А „żal, smutek i niewola wiekuista“ усё яшчэ разьліваецца песьнямі па нівах і Юр'ем, і жнівом, і познай восеняй. Усё яшчэ плыве з іх нейкая безнадзейнасьць і разам нейкая магутная,

---

*) Слова „Літоўская“ заместа „Беларуская“ у назове рапсодыі Карловіч ужыў ясна ў значэньні гістарычным. Беларускія землі, як ведама, даўней за часоў Вялікага Княства Літоўскага і доўга пазьней зваліся Літвой, беларусы — літвінамі. Ды і цяпер яшчэ палякі з Галіччыны, Пазнаншчыны ці Крулества едучы ў Наваградчыну ці Віленшчыну часта гавораць „jedziemy na Litwę“. Таксама беларусы, а асабліва на Палесьсі, яшчэ часта завуць сябе „ліцьвінамі“. Карыстаючы з таго, што Карловіч назваў сваю рапсодыю беларускім гістарычным назовам, літвіны на сваіх канцэртах, а таксама праз радыё з Коўна, часта выконываюць „Літоўскую Рапсодыю“ як сваю. Дзеецца тут падобна, як з гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага, якую таксама літвіны часта, карыстаючы толькі з самота назову, цалком прысабечываюць.

шырокая, як поле і неба, туга, туга за нечым іншым, чым „niewola wiekuista“...

З роднага кампазытару двара асталіся толькі астаткі парку, кляновыя прысады ды дворны падмурак. Усё іншае зьмяла вайна.

Едучы праз мястэчка пры вуліцы знаходзім дом, на якім пабеларуску размаляваны шыльд абвяшчае, што тут „колёніяльна-спажывецкая крама“. Заходзім, вітаемся з сымпатычным гаспадаром. У гаворцы даведываемся, што шыльд такі пры сучасных варунках прыемнасьці гаспадару ня прыносіць, а клопатаў розных у волю. Паны, асаднікі ды валасныя „вяльможы“ праходзячы міма, касурацца, шэрсьцяцца, стрыгуць вушмі на шыльд і спуджаныя кідаюцца ў другую краму, дзе німа такой „антыпанствовай“ вывескі. Ды беларуская зацятасьць робіць сваё, і шыльд, ня гледзячы на ўсё, горда паглядае з панад дзьвярэй.

Богінь можа пахваліцца нязвычайна маляўнічымі, высокімі, моцна павыгінанымі і пакрытымі лісьцяной зеляняй берагамі. Цікавае яно і з іншага гледзішча. Праз адно з вазёрных рукавоў, шырыні некалькі сот мэтраў, высыпаная і густа абапал вербамі ўмацаваная дарога, пасярэдзіне якой заставы трымаюць ў вялікім азёрным рукаве ваду на вышэйшай роўні. Праз заставы кінуты мост. Побач гудзіць млын. Сыпаў гэтую дарогу праз возера яшчэ за часоў паншчыны мясцовы беларускі селянін. Ён патрапіў сваім „мужыцкім розумам“ уплянаваць і кіраваць будовай гэтага некалькісот мэтровага „Днепрастрою“ — як на гэныя часы, рэчы вялікай і цяжкой. І цяпер яшчэ паміж мясцовых людзей ходзяць разказы пра таго вясковага інжынера, што „перасыпаў возера“. У гэтых расказах чуваць нотка гордасьці з таго, што гэта якраз быў чалавек свой, такі-ж сын вёскі, як і яны.

Шмат тут невыкарыстанай вадзяной энэргіі. Дрэме яна тымчасам, як заклятая, у рэках і ў гэтых тысячах вазёр Віленшчыны. Як падае адзін з адумыслоўцаў электротэхнікаў, на водах Віленшчыны можна збудаваць заводы сілы 100.000 мэханічных коняў. А ўсе энэргэтычныя жаролы Віленшчыны могуць даваць столькі энэргіі, што яе ня толькі хопіць на разбудову тут вялікага промыслу, але можна яшчэ ў выпадку патрэбы перасылаць у Цэнтральную Польшчу! *). Ды нічога дзіўнага. Гэта-ж сілы вод — белы вугаль — ды лес, сталіся жаралом дабрабыту фінскага селяніна, селяніна краіны наагул даволі беднай. Яны запалілі ў ягонай хаце заместа лучыны сьвятло электрычнае і разам сьвятло культуры і цывілізацыі.

Нашыя-ж энэргэтычныя скарбы тымчасам дрэмлюць безработныя. Ня круцяць турбін, ня зьзяюць мільёнамі электрычных лямп. Ужо даўно чакаюць іншых, лепшых часоў, калі з нетраў народных выйдуць не адзінкі, самародкі, а цэлыя кадры інжыняроў адумыслоўцаў і пусьцяць гэтыя мільёны кілёватаў электрычнай сілы дратамі па ўсей Беларусі, зьменяць тут романтыку дзікой прыроды ў романтыку тэхнікі і працы.

(Далей будзе)

**А. Горны**

---

*) Глядзі рэфэрат дыр. Ю Глятмана „Zasoby energetyczne Wileńszczyzny“, чытаны на VIII З'езьдзе „Stowarzyszenia Elektrotechników Polskich“ 30.V. 1936 г. „Kurjer Wileński“ № 149, z 31.V. 1936 г.

АНАТОЛЬ ІВЭРС

# ВОСЕНЬ.

І разсыпалась звонам —
Медным лістам з асінаў.
На выносьлівых клёнах
Залаціла чупрына.

Я і сам не паверыў,
Што наскочыла восень.
І вось тут на паперы
Шапацеў-бы калосьсем.

Эх, імглістая восень,
Не цябе я засватаў! —
Ты-ж з ваўкамі між сосен
Прыпляцешся пад хату.

На пажоўклай бярозе
Не дагледзіў я сьмеху...
Эх, вясьне на дарозе
Я паставіў-бы вехі!

А то хутка завеі
Будуць плакаць сярдзіта —
Можа хто не пасеяў
Ані каліўца жыта.

Можа хто без адзёжы,
Можа хто і без хаты, —
Ты, марозісты сьнежань,
Ахінеш хіба ў вату.

Будуць вочы іскрыцца,
Будуць зоры гарэці.
Ўсе шляхі і гасьцінцы
Перапутае вецер.

---

* * *

Каб не злыя шугавеі
Разматалі чорну ніць,—
Сонца яснаю лілеяй
Калыхала б нашы дні.

І каб Нёманавы хвалі
Ды ня білісь аб пяскі,
Можа песень не пялі-б
Аб нядолі сівых скіб.

І ляшчэўнікі густыя,
Струны звонкія сасён
Шэпчуць казкі залатыя
Пра сялянскі цяжкі сон...

Ну чаму-ж ня скінуць камень
Ды пайсьці у той паход
Разам з сонечнымі днямі,
Куды рушыў веснаход?

Дык прыдзі душою зьліцца,
Так як з росамі трава, —
Будзем разам весяліцца,
Будзем разам гараваць.

Там дзе краска напілася
І паветра і вады,
Дзе шуміць кудлаты ясень
І калыша белы дым;

Там дзе ў стрэхах саламяных
Месяц затачыў нарог, —
Мы паможам сонцу рана
Пералезьці праз парог...

# Пясьняр Нарачы.

Танк у нашай літаратуры зьявіўся і разьвіўся раптам і неспадзявана. Таму часткова даволі многа пісалася і пішацца ў беларускай прэсе аб ім і ягонай творчасьці. З артыкулаў тых звычайна ліюцца захапленьні і пахвалы, хаця здараецца часам і поўнае запярэчаньне таленту і мастацкіх вартасьцяў. Адна супольная іх рыса — няма там звычайна самой *крытыкі* ў поўным сэнсе гэтага слова. Ды нічога дзіўнага. Літаратура ў нас тут толькі цяпер пачала шырэй разьвівацца. А крытыка, як ведама, заўсёды валачэцца ззаду. Такі закон разьвіцьця. Так што трэба верыць, што хутка за розквітам поэзіі прыйдзе і розквіт крытыкі. А тымчасам будзе добра ўважна прыслухацца таксама да галасоў крытыкі чужой.

Апошнім часам Танкавай творчасьцяй зацікавіліся польскія літаратурныя кругі. Галасы іх аб Танку нам цікавыя з розных гледзішчаў. Адно, гэта тое, што гэта голас людзей нацыянальна чужых, каторыя могуць падыйсьці да беларускай літаратуры без таго пачуцьцёва-патрыётычнага багажу, з якім мімаволі будзе падыходзіць кожны беларус. Значыцца ацэна іх звычайна можа быць больш об'ектыўная. Другое — польская літаратура мае многа адумыслоўцаў — літаратурных крытыкаў, каторыя над літаратурай ужо «зубы зьелі», чым ня можам пахваліцца тымчасам мы, і таму іхняя ацэна можа мець большую вагу і з гэтага гледзішча. Трэцяе — польскія крытыкі, разглядаючы беларускія творы, мімаволі раўнуюць іх да сваіх; нам якраз цікава, як беларуская літаратура выглядае ў такім прыраўнаньні.

Дзеля гэтага мы ўжо падавалі одзывы аб Танкавай творчасьці неофіцыяльнага органу Польскай Акадэміі Літаратуры «Pionu», а цяпер падаём тут часьць цікавых уваг Сэвэрына Сасноўскага, пад загалоўкам «Пясьняр Нарачы», зьмешчаных у № 33 літаратурнага месячніка «Сыгналы», які выходзе ў Львове. Сасноўскі піша:

„Максім Танк, найвыдатнейшы з беларускіх паэтаў, якія жывуць у Польшчы, выдаў нядаўна дзьве новыя кніжкі, поэму «Нарач» і том лірык «Журавінавы цьвет». Кніжкі гэтыя сваім зьместам, роўнем, выказыванымі імкненьнямі, вартасьцямі, каторыя ўносяць у скарбніцу агульналюдзкай культуры — адным словам усім пацьвярджаюць канечнасьць пазнаньня польскай крытыкай беларускай літаратуры.

«Нарач» гэта твор бліжэйшы нашым паняцьцям аб поэме, чымся ўсе паваенныя польскія публікацыі, каторыя асабліва цяпер так любяць падшывацца пад гэты шляхотны назоў. Ня гледзячы на тое, ці гэты факт трэба лічыць памысным, ці падыходзіць да яго, як да доказу спозьненага разьвіцьця беларускай літаратуры, трэба сьцьвердзіць, што трудна знайсьці новачасны паэтычны твор, у якім кампазыцыя большых цэласьцяў была-б праведзена так хораша і так арыгінальна. Можна было-б мець некаторыя засьцярогі адносна агульнага стылёвага згарманізаваньня; апісальна-лірычны матар'ял і новэлістычная акцыя — гэтыя два галоўныя элемэнты ў будове поэмы — у даным выпадку не заўсёды належна з сабой павязаны. Дый акцыя паэмы належна не апрацавана, будова яе прыпамінае сабраньне абразоў, злучаных супольным об'ектам апісаньня (наднарачанская беларуская вёска), а не прычыннай сувязяй. Дык гэта ёсьць хутчэй рэпортажнае

ўняцьце, чым новэлістычнае. Ня гледзячы на гэта, на фоне сяньняшняй польскай паэтычнай практыкі, поэма Танка нават з гэтага боку ёсьць зьявішчам цікавым, дасьпелым і павучальным. Творы сучасных польскіх паэтаў, так ахвотна называныя імі поэмамі, у прыраўнаньні да «Нарачы» здаюцца ў найлепшым выпадку нечым адрывачным, няскончаным («Powrót na Powiśle»), найчасьцей-жа робяць уражаньне ці то паэзіі, хоць і добрай, але зусім неаформленай, далёкай ад эпічнасьці («Przyjście wroga», «Tropiciel»), ці проста недаваранай прозы («Prowincja»).

Такое прыраўнаньне, ясна, ня можа быць асновай дзеля клясыфікацыйнай ацэны. Польская і беларуская літаратура ідуць кожная сваей дарогай; тое чаго адносна лёгка можа дасягнуць адна, другая можа здабыць толькі з найвялікшай натугай; натуга гэтая ў нашым выпадку ясна мала сэнсоўная. Гаворка аб г. зв. «адраджэньні эпікі».

Моц Танкавай поэмы — у апісальна-лірычным матар'яле. Вобразы беларускай зямлі ў «Нарачы» задзіўляюць як чыста паэтычнай красой, так і лірычна-настраёвай. Дар паэтычнай вобразнасьці ў Танка сапраўды нязвычайны. Край, сымбалем каторага ёсьць сасна, бяроза і пясок, набірае ў яго адценяў нейкай чароўнай краіны харАства. Стаімо ў задзіўленьні перад краявідамі, каторыя мы-ж вельмі добра ведаем, каторыя — згодна з агульна ўжыванай сыстэмай паэтычных мераў і ваг — мы лічылі за шэрыя, бедныя і сумныя, пазнаем іх і ня можам пазнаць, стаімо зьдзіўленыя іх праўдзівасьцяй і красой. Колькі трэба любові да гэтае зямлі, колькі паэтычнага таленту, каб стварыць гэткі абраз яе, ня ўжываючы фальшу і фікцыі. Зямля Нарачы і Нёмну ад Міцкевіча ня мела гэткага вялікага пясьняра.

«Журавінавы цьвет» побач з некаторымі адрыўкамі з «Нарачы» і дробнымі лірычнымі творамі зьмяшчае пару невялікіх поэмак, у тым ліку твор, загаловак якога дадзены ўсяму зборніку. Гэта ў зборніку найлепшая часьць, якая з некаторых бакоў узьнімаецца вышэй за «Нарач». І тутака найбольш захопліваюць усе апісальныя мейсцы, дзеяньне-ж расплянавана не даволі цікаўна і старанна. Іншыя творы гэтага зборніку наагул стаяць на ніжэйшым роўні хаця ніколі не на нізкім ды нават не сярэднім. Можна было-б ім закінуць тыя ці іншыя недацяжкі, зразумелыя і натуральныя ў такога маладога, ледзь не пачынаючага паэты, якім ёсьць Танк. Але закіды гэтыя былі-б толькі мясцовыя, другарадныя, пашырыць іх на ўсю творчасьць беларускага паэты было-б вельмі трудна.

Толькі адно ў гэтых кніжках ёсьць супольнае: нястача свабоды ў выказываньні захопліваючых Танка паэтычных праблемаў. Творчасьць ягоную характэрызуе нейкая прымусовая камэральнасьць; голас паэты, каторы павінен быць адкрыты, выразны і гучны, стаецца штучна сьцішаным; агульная інтонацыя ягонай паэзіі — гэта паўшопат; пераважаючыя стылістычныя фігуры — намёк і алегорыя; найчасьцейшы знак прыпынку... недаказ. Асабліва вялікую ролю адыграў гэты апошні ў «Нарачы», замяняе ён там амаль адну трацінутэксту. Пеўне-ж усе мы ведаем, што не Танку за гэта трэба рабіць закіды"...

*V.*

# Сьмерць Т. Масарыка.

У аўторак 14-го верасьня с. г. памёр прэзыдэнт — асвабадзіцель Чэхаславаччыны — Тамаш Масарык. Вялікае імя нябошчыка Масарыка належыць да ўсяго культурнага сьвету, бо ён ня толькі быў Чэхам і асвабадзіцелем свайго паднявольнага народу, — Масарык быў вялікім апосталам дэмакрацыі, быў вялікім вучоным і вялікім славянінам. Сягоньняшні нацыянальны сум Чэхаславаччыны — можна сьмела сказаць — ёсьць сумам сусьветнае дэмакрацыі.

Тамаш Масарык радзіўся ў 1850 годзе ў маленькім гарадку Годоніне. Бацька ягоны быў дворскім фурманом, а маці — дворскаю кухаркаю; яны мусілі працаваць у панскім двары, бо свайго нічога ня мелі. Цяжкія былі дзіцячыя годы будучага вялікага асвабадзіцеля Чэхаславаччыны. Хлапчук ня сьмеў нават ўдоваль нагуляцца, бо ўсё кругом было панскае, а толькі некалькі куткоў у дворскім бараку былі „сваі“. Пачаткавая навука была надта скромная; Масарык скончыў народную школу ў Годоніне. Бацькі вельмі хацелі, каб іх сын быў кавалём, бо кавалі тагды даволі добра зараблялі і „тэрмінаваць“ у кузьні трэба было толькі два гады. Масарыкаў бацька быў ужо стары і хацеў, каб сынок чым хутчэй стаў на ногі і каб змог також памагаць старым бацьком. Не прадбачыў, напэўна, стары бацька, што ягоны сынок будзе кавалём долі ўсяго чэхаславацкага народу!

Масарык палюбіў кавальскае рамясло; „тэрмінаваў“ даволі добра, і ягоны майстра, стары-мазалісты каваль, хваліў маладога вучня. Найвялікшай роскашай для Масарыка было бачыць цьвёрдую сталь, калі яна, распаленая ў гарне, гнулася пад ударам молата і пакорна паддавалася волі чалавека. Гарачая любоў кавальскага рамясла не пакінула Масарыка аж да самае сьмерці. Ужо будучы прэзыдэнтам часта адведываў кузьні і вельмі любіў крэпка молатам ударыць па распаленым жалезе накавальні. Перадусім любіў Масарык вясковыя, прыдарожныя кузьні. Аб'ежджаючы Чэхаславаччыну, часта затрымліваліся самаходы перад вясковай кузьняй; прэзыдэнт выходзіў з самаходу, заходзіў у кузьню, гутарыў з кавалём і, калі каваль браўся за молат, Масарык прылучаўся другім молатам да працы. З кузьні выходзіў прэзыдэнт заўсёды вясёлы. Аднойчы зайшоў прэзыдэнт у вясковую кузьню і пачуў там сварку селяніна, каторы прывёў падкуць каня, але самога каваля не было дома; у кузьні быў толькі малады кавалюк, які яшчэ ня ўмеў падкуць каня. Масарык прабаваў навучыць хлапца, але калі ўбачыў, што з навукі нічога ня выйдзе, зьняў пальто, надзеў кавальскі фартух, і праз гадзіну задаволены селянін паехаў падкутым канём на работу. Вельмі цікава, што Масарык узяў ад селяніна поўную плату за падкуцьцё каня; трэцюю частку аддаў кавалю за арудзьдзе, а рэшту палажыў сабе ў кішэню. Прысутны ў кузьні прэм'ер Антон Швэгла запытаўся прэзыдэнта, чаму ён узяў ад селяніна грошы? Масарык горда адказаў; — „Толькі капіталіст не аплачывае поўнасьцю працы работніка. Ці-ж я магу права раўняць чэснага селяніна з злодзеем? Я быў ягоным работнікам, ён заплаціў мне за працу“. — Кажуць, што гэныя грошы Масарык разьдзяліў паміж сваімі ўнукамі і пажадаў ім, каб яны заўсёды толькі ўласнаю працаю зараблялі сабе на жыцьцё.

Можа быў-бы Масарык сапраўды кавалём праз усё жыцьцё,

калі б не вучыцель народнай школы. Ён палюбіў хлапчука яшчэ ў школе і цяпер у кузьні часта яго адведываў. Шмат трэба было палажыць працы, каб змусіць бацькоў Масарыка ўзяць свайго сына з кузьні і паслаць яго ў школу. У канцыканцоў удалося вырваць Масарыка з кузьні, і 15-ці гадовы Тамаш пайшоў у гімназію, у горадзе Брне; быў прыняты ў другую клясу. Ня гледзячы на страшэнна цяжкія абставіны жыцьця, Масарык вучыўся ў гімназіі добра. Але і няшчасьце йшло сьледам за ім. Будучы ў сёмай клясе, паспрачаўся Масарык аб нейкіх вельмі важных касьцельных догматах з ксяндзом. Вынік гэтай спрэчкі быў сумны: Масарыка выгналі з гімназіі. Масарык пераехаў у Вену і там скончыў гімназію. Гэтыя годы ў венскай гімназіі належаць да найцяжэйшых у жыцьці Масарыка.


Т. Масарык.

Ужо ў восьмай клясе гімназіі Масарык пазнаў горкае жыцьцё беднага школьніка. Ён зразумеў адразу, што адзіным магчымым спосабам, які ўмагчыміць яму навуку ў унівэрсытэце, ёсьць — карэпэтытарства. Масарык пачаў даваць карэпэтыцыі будучы гімназістам, а скончыў іх толькі ў сакавіку 1879 году, калі стаўся доцантам у венскім унівэрсытэце.

Кончыўшы гімназію Масарык уступіў на унівэрсытэт у Вене і студыяваў соцыялёгію і літаратуру. Яшчэ будучы гімназістам Масарык пачаў усьведамляючую працу сярод чэскай моладзі ў Вене, але толькі калі ўступіў на унівэрсытэт, пачаў сваю грамадзкую працу ў шырокім маштабе. Чэскае грамадзянства адразу зьвярнула ўвагу на маладога Масарыка, і кожны вельмі паважаў энэргічнага студэнта. Перадусім Масарык быў здольным і сьмелым публіцыстам. Ясныя і сьмелыя думкі Масарыка прыймаліся чэскім грамадзянствам як нацыянальная праграма народнага вызваленьня. Ад уступленьня ў унівэрсытэт аж да сьмерці Масарык ужо не пакінуў ані на хвіліну вясьці свой народ, вучыць яго і бараніць. Чэхі кажуць, каб не было Масарыка, то не было-б незалежнай Чэхаславаччыны, і дзеля гэтага называюць яго — „татічкам“, г.зн. татуляй. Нямецкі біограф Масарыка, Эміль Людвіг, цьвердзіць, што калі-б не было Масарыка, то да сяньня істнавала-б старая Аўстра-Вэнгрыя, гэная турма славянскіх народаў. Думку Э. Людвіга пацьвердзіў даўгалетні францускі міністар замежных спраў, нябошчык А. Брыян, прызнаючыся, што плян вызваленьня паняволяных Аўстрыяй народаў даў для пераможных эўрапэйскіх дзяржаваў Масарык. Гэты Масарыкаў плян быў так глыбака і дакладна апрацаваны, што лёгка пераканаў усіх кааліцыйных палітыкаў аб неабходнасьці вызваленьня з аўстрыяцкай турмы ўсіх падняволеных народаў.

Астаецца ўсё-ж такі яшчэ адно важнае пытаньне. Як змог гэты гэніяльны Чэх здабыць сабе проста нячуваную папулярнасьць у ваўсім культурна-дэмакратычным сьвеце? Адказ на гэтае пытаньне ёсьць скрыты ў характары Масарыка. Масарык — гэта перадусім вялікі змагар за справядлівасьць для кожнага скрыўджанага чалавека, для кожнага скрыўджанага народу. Ня толькі крыўда Чэхаў мучыла Масарыка; яго мучыла крыўда кожнага чалавека, кожнага народу.

У 1908 годзе Аўстрыя забрала Босьнію і прысудзіла на сьмерць 53 Сэрбаў і Харватаў — за „дзяржаўную здраду". Масарык выступіў з заклікам да ўсяго культурнага сьвету ў абароне гэтых сэрбскіх патрыётаў і выратаваў іх ад сьмерці. У Празе згінула хрысьціянскае дзіцянё. Езуіты афіцыяльна абвінавацілі беднага Жыда Гільснэра, пражскага краўца, што ён забіў дзіцянё „на кроў да мацы". Суд, пад тэрорам езуітаў прысудзіў Гільснэра на дасьмяротную турму. Масарык піша аб гэтым жудасным судзе кніжку, узварушае сумленьне ўсяго культурнага сьвету, дабіваецца рэвізіі суду, і апраўданы, няшчасны Гільснэр цалуе ногі свайго вялікага заступніка. Увесь сьвет пазнаў Масарыка, як вялікага змагара за справядлівасьць для ўсіх пакрыўджаных. Галосным рэхам абляцела ўвесь сьвет вестка, як шчасьліва ўцёк 60-гадовы Масарык з пад аўстрыяцкага канвою. Пасьля абвешчаньня вайны Аўстрыя зараз-жа арыштавала Масарыка і, як ведама, засудзіла яго на сьмерць. Масарыку было ўжо тагды 60 гадоў. І вось 60-гадовы старац уцёк з пад канвою, перабраўся за граніцу і вярнуўся на бацькаўшчыну ў 1918 годзе, ужо як прэзыдэнт вызволенай Чэхаславаччыны.

І навуковая дзейнасьць прычынілася вельмі да папулярнасьці Масарыка. Найвялікшым пасьпехам у навуковым сьвеце карыстаюцца ягоныя дзьве соцыялягічныя працы: „Самагубства" і „Расея і Эўропа". Гэтыя дзьве навуковыя працы перакладзены на ўсе мовы культурнага сьвету. Перад сусьветнай вайной Масарык лічыўся ў Эўропе адным з найлепшых знаўцаў Расеі. Вялікі расейскі філёзаф і пісьменьнік, Леў Толстой, вельмі любіў і цаніў Масарыка, каторы два разы быў госьцем Ясной Паляны.

Вялікі дэмакратычны дух Масарыка стаўся праваднікам культурна-палітычнага жыцьця Чэхаславаччыны, якая сягоньня належыць да сям'і вялікіх дэмакратычных народаў Эўропы.

**Д-р Фр. Грышкевіч.**

---

АЛЕСЬ ДУБРОВІЧ.

## ДЗЯЎЧЫНЕ.

Табе у калысцы ўжо гора пяяла,
узрастала — зялёны ваночак пляло
і галоўку тваю ў той вяночак убрала,—
ты навучылася з горам змагацца малой.

Ты змагла жорсткасьць дзён не сагрэтая ласкай,
у грудзях тваіх сум не разросься ў палын;
і вось — глянь! — разцьвіла, бы на раніцу краска,
і ў вачох тваіх сонца іграе разліў!

# НА ПОЎНАЧ.

Гаворачы аб здабываньні чалавекам халодных палярных краёў, мы памінём самаедаў і эскімосаў, якія жывуць там спакон вякоў, але якія не перадавалі сваёй веды іншым народам.

Пачатак нашай цывілізацыі, як ведама далі народы паўднёвай Азіі і берагоў Міжземнага мора. У першую чаргу грэкі і рымляне.

Грэкі шырака гандлявалі з іншымі народамі, езьдзячы да іх пераважна лодкамі і караблямі. Таму зьведалі яны вялікія, як на той час, абшары зямлі. Праяжджалі нават праз Чорнае мора, Дняпро, беларускія землі, Прыпяць, Нёман аж да Балтыцкага мора едучы па янтар. Сьведчаць аб гэтым стара-грэцкія манэты, якія знаходзім часамі на нашых землях, запіскі, а ў іх грэцкія назовы нашых мясцовасьцяў і рэк. Гэтак прыкладам ведама, што Нёман называўся ў грэкаў *Хронос*, што азначае „час“, у знак таго, што ў яго загібах трацілася шмат часу, каб праехаць вадою невялікую адносна адлегласьць. Наш край быў для грэкаў, вырасшых у гарачым сонцы паўдня „далёкай поўначчу“. Тут маглі-б яны нават пабачыць замёрзшае Балтыцкае мора, але аб гэтым нічога не ўспамінаюць, відаць таму, што езьдзілі да нас толькі лодкамі, перацягваючы іх, дзе трэба, ад аднае рэчкі да другой, па зямлі, і зімою праўдападобна ніколі тут ня былі.

Адкрытай вадой рэдка аднак пускаліся грэкі далей за берагі Міжземнага мора. Таму да нязвычайных людзей належаў грэцкі купец Пітэй, ведамы астраном *) і падарожнік, які жыў у IV стагодзьдзі перад Нараджэньнем Хрыста, у пару найбольшага пашырэньня ўлады Грэцыі. Каля 325 г. перад Нар. Хр. Пітэй пусьціўся з таварам адважна на шырокія прасторы Атлянтычнага акіяну. Абагнуў, затрымліваючыся, пабярэжжа цяперашняй Францыі і, праехаўшы ўздоўж берагоў Вялікай Брытаніі (Англіі), скіраваўся далей проста на поўнач. Пасьля 6 дзён плаваньня знайшоў бераг, які яму падаўся востравам, названым пазьней — *Туле.* Далейшую дарогу перасекла замерзшае мора і густы туман. Вярнуўшыся, Пітэй прывёз у сонечную, цёплую Грэцыю першую вестку аб лядох поўначы, аб нязнанай дагэтуль краіне чараў і дзіваў, дзе ноч трывала без перарыву 40 дзён. Зьдзівіліся землякі, але хутка ў сонцы і забыліся аб гэтым, а можа нават і не паверылі. У кожным выпадку ніхто з іх ня выбраўся наздзіраць гэты няведамы, далёкі край. Забыліся і аб востраве Туле, назоў якога перайшоў у гісторыю, як сымбаль канца сьвету, царства сьмяротнага холаду.

Толькі рымскі мудрэц Сэнэка (жыў у часы Хрыста) казаў, што прыйдзе некалі пара, калі будуць адкрыты далейшыя бязмежныя землі і Туле перастане быць найдалейшым краем.

Дачакаліся гэтага мы. Цяпер зямля выдаецца зусім маленькай у прыраўнаньні да аграмаднага, даволі добра ведамага нам, сусьвету, а чалавек, дзякуючы сучаснай тэхніцы, плывучы навакол сьвету па-

*) Астраном, гэта вучоны, які займаецца пазнаваньнем зораў, сонца, месяца і іншых нябесных целаў.

раходамі ці лятучы самалётамі, ня раз глядзіць на зямлю, быццам трымаючы паасобныя яе часткі ў далонях.

Але ад часоў Сэнэкі прайшло каля 2 тысячаў гадоў з пачатку павольнага, а потым штораз хутчэйшага здабываньня новых абшараў зямной кулі. Прырода ўзяла за гэты час шмат ахвяраў. Найбольш іх праглынулі гарачая Афрыка і сьцюдзёныя берагі Паўночнай Амэрыкі, Эўропы і Азіі.

---

У сярэднявеччы, калі ў агульным жыцьці чалавецтва пачынаюць браць удзел народы паўночнай Эўропы, прывыкшыя да зімы, да барацьбы з сьнегам, лёдам і завеямі, пачынаецца пара палярных падарожжаў, а нават колёнізацыя далёкіх, адлюдных земляў.

З двох розных бакоў пасоўваліся эўрапэйцы на поўнач: 1) з Францыі і Англіі, 2) з Скандынавіі. Першыя — гэта былі манахі, якія, згодна з духам часу, шукалі або новых народаў для пашырэньня сярод іх хрысьціянскай веры, або пустынных краёў дзе маглі-б пасьвяціцца малітве. Ужо ў VIII стагодзьдзі яны завандравалі на няведамы да таго часу востраў — *Ісляндыю.* Другія — гэта былі адважныя, рызыкоўныя *вікінгі* — продкі цяперашніх Норвэгаў. Яны або ўцякалі ад уціску сваіх уладароў, або проста для прыгодаў і рабункаў сьмела пускаліся на шырокія воды паўночнага Атлянтыку. Зьезьдзілі яны паўночныя моры ўздоўж і ўпоперак, адкрывалі штораз новыя землі, між імі Зямлю Лядоў (Ісляндыю), дзе і знайшлі манахаў, якіх прымусілі ўцякаць. Аплылі яны Зэляндыю навокал і даказалі, што гэта востраў; пасяліліся там. З часам ім стала тут за цесна і вытварыўся звычай, што некаторых жыхароў за кару выганялі з гэтага няпрытульнага краю. Адзін з гэткіх выгнанцаў — Эрык Чырвоны ў канцы X стагодзьдзя заплыў летам да берагоў новай нязнанай зямлі, якую назваў Зялёнаю (Грэнляндыя) *). Прабыў на ей 3 гады, а потым вярнуўся ў Ісляндыю па новых людзей. Шмат хто выехаў з жывінаю, з рэчамі ў новую сялібу; шмат хто згінуў па дарозе, але некалькі сотак людзей даехала і пасялілася там. Пазьней яны зьведалі берагі Грэнляндыі далёка на поўнач і на недаступны захад, знаходзячы на ледзяной пустыні сьляды эскімосаў.

У гэтым самым часе, гэта значыць доўга перад ведамым падарожжам Колюмба, вікінгі даехалі да Паўночнай Амэрыкі. Яны не баяліся на сваіх невялічкіх караблях плысьці праз увесь Паўночны Атлянтычны акіян, часта ўсыпаны лёдам, з якім ня раз прыходзілася цяжка змагацца.

За гэтыя ўсе няпісаныя заслугі вікінгі здабылі пазьней назоў *першых палярных падарожнікаў.*

Дзіўныя ведамасьці мелі тады людзі аб паўночных краёх. Нават тагачасныя вучоныя (XI стаг.) цьвердзілі, што Грэнляндыя (Зялёны край) атрымала свой назоў ад зялёных людзей, якія там быццам жылі; што акіянічны лёд так зьмёрз і высах, што можа гарэць. Даволі дакладныя запіскі норвэжца Оттора, які ў 890 г. першы даехаў да Белага мора і падаў даволі дакладныя спасьцярогі, ня былі веда-

---

*) Глядзі карту ў № 8 „Белар. Летапісу“.

мыя. Усе верылі ў зачараванае мора і страшэнную, ўсё глытаючую глыбіню далёкай поўначы. Нават у бацькаўшчыне вікінгаў народ увабраў палярныя краі ў прыгожыя але жудасныя легэнды аб Гэльгэйме — сялібе сьмерці, дзе панавала багіня сьмерці, аб востраве памёршых, аб нейкім Ніфльгейме, дзе волаты вялі свае дзіўныя і буйныя гульні.

Ішлі гады. Вікінгі супакоіліся. Сярод людзей, якія асталіся на мейсцы, чуткі і ўспаміны аб вялікай Грэнляндыі зацягваліся густою імглою. У іншы бок зьвярнуліся эўрапэйцы. З поўдня праз Гішпанію, з усходу праз Малую Азію і славянскія землі пасоўваліся лявінамі народы Азіі: арабы, татары, туркі. Трэба было бараніцца; пра іншае думаць ня было часу.

---

Каб добра зразумець далейшыя падзеі, трэба прыпомніць, што эўрапэйцы з давен-даўна вялі жывы гандаль з Азіяй. З Пэрсыі прывозілі прыгожыя, слаўныя тканіны, з Індыі — розныя карэньні, перац, цынамон, зёлкі, расьлінныя хварбы, з Кітая — парцэляну, з Японіі— шоўк і іншае. Асабліва верылі ў вялікія колькасьці золата ў Індыі. Узамен за гэтыя тавары давалі свае вырабы, у першую чарту мэталёвыя, і аружжа. Старыя гандлёвыя шляхі вялі сухой дарогаю праз Эгіпт і Сырыю.

Вось-жа, нападаючы на Эўропу, народы Азіі загарадзілі дарогу да ўсходніх скарбаў і трэба было шукаць іншай. Заняліся гэтым у першую чаргу португальцы, пасоўваючыся на поўдзень, але вяртаючыся раз за разам ад гарачых туманоў Афрыкі спалоханыя, што перад імі ляжыць пекла. Посьле пазналі ўсёжтакі берагі Афрыкі, а Васко дэ Гама ў канцы XV стагодзьдзя аплыў яе навакол і дастаўся ў Індыю. Цікава, што за гэта адкрыцьцё ён дастаў ад португальскага караля Эмануэля як нагароду 80 пудоў перцу. Новая дарога была знойдзена, але сталася манаполем Португаліі. Іншыя гаспадарствы ня мелі да яе доступу. Гішпанцы знайшлі сабе багацьці ў Амэрыцэ, якую ў гэтым-жа часе адкрыў Колюмб. Паўночныя-ж народы (Англійцы, Галандцы, Данцы) глядзелі на поўдзень зайздросным вокам і чуліся пакрыўджанымі, бо ані сухою дарогаю, ані акіянам не маглі дабрацца да казачных багацьцяў усходу.

Тады паўстала думка, якая на доўгія часы, а нават часткова і цяпер, была восьсю палярных экспэдыцыяў: знайсьці праход у Азію праз паўночна-заходнюю (уздоўж берагоў Амэрыкі) ці паўночнаўсходнюю (уздоўж берагоў Эўропы і Азіі) частку палярнага мора.

Праўда і цяпер гэтыя праходы, хаця знойдзеныя, ня маюць тымчасам практычнае вартасьці, але векавое змаганьне за іх адкрыцьцё гартавала цэлыя пакаленьні паўночных народаў, асабліва англійцаў, якіх вырабіла на ўладароў мора.

У 1553 г. англійскае гандлёвае таварыства заснаванае дзеля шуканьня рынкаў для англійскага тавару выслала на Ўсход — пры радаснай і поўнай надзеі таўпе народу – першую экспэдыцыю зложаную з 3 караблёў. Аднак ужо пры Нордкапе (паўн. Норвэгія) бура аддзяліла адзін з іх. Ён адзін і меў крыху шчасьця. Кіданы бурамі даплыў да ракі Паўночнай Дзьвіны, а адтуль капітан з часткай людзей паехаў у Маскву, дзе з царом Іванам Грозным падпісаў карыс-

ную для Англіі гандлёвую ўмову. Два іншыя караблі былі занесены вятрамі за востраў Новай Зямлі (гл. карту), а потым да Кольскага паўвострава, дзе падарожнікам прышлося зрабіць першую ў палярнай гісторыі зімоўку, да якой зусім ня былі прыгатаваныя. Усе яны пагінулі з голаду, холаду і шкорбуту. Англійцы выслалі яшчэ адну па другой тры экспэдыцыі, але ўсе яны ўвязьлі ў лядох Карскага мора, якое на доўга атрымала назоў „Лядоўні Эўропы". Пасьля Англія ў гандлі з Расеяй уступіла сваё месца Голяндыі. Голяндыя тымчасам старалася знайсьці дарогу для гандлю з багатым Кітаем і голяндскі ўрад вызначыў вялікую нагароду 25.000 гульдэнаў таму, хто яе знойдзе праз поўнач у Азію.

За тры гады (ад 1594 да 1597) голяндцы пасьпелі выслаць 3 дасканальна зарганізаваныя экпэдыцыі, якія прабіўшыся праз Карскае мора да паўвострава Самаедаў аб'ехалі Новую Зямлю і адкрылі нязнаныя да таго часу выспы, між іншым Шпіцбэрген. Падчас апошняй экспэдыцыі адзін карабель прымёрз пры Новай Зямлі і змушаны быў зімаваць. Хаця зімоўка была прадбачана, але ніхто не спадзяваўся, што зіма будзе тут такая страшная. У шчыльна збудаванай дзеравянай хаце быў такі мароз, што вопратка і абутак прымярзалі да цела, а ложкі, ня гледзячы на тое, што вагонь гарэў у хаце бязупынку, пакрыліся тоўстым пластам лёду. Вясною крыгі паламалі карабль і прышлося ратавацца на лодках зьбітых з нанесенага морам дзерава. Частка падарожнікаў згінула, а рэшту выратавалі расейскія маракі.

Недабіткі, вярнуўшыся на бацькаўшчыну, прывязьлі вестку аб нязлічаным мностве морскіх сабак (цэнныя скуркі) і кітоў, і аб вялікіх заработках расейскіх купцоў, якія езьдзяць на поўнач. Зараз-жа выбраліся соткі караблёў з Англіі, Голяндыі, Даніі, а нават з Францыі і Нямеччыны.

Загаманілі адлюдныя дагэтуль сьнежныя берагі Шпіцбэргена, які стаўся асяродкам першай пераробкі здабыткаў, і хутка вырасла тут места, хоць вельмі бруднае, але налічваючае ўлетку некалькі тысячаў жыхароў. Зімою яно замірала, а на вясну зноў чутны былі песьні, крыкі, каваньне ў кузьнях.

Да прыстані пад'яжджалі штораз новыя караблі. Рух гэткі трываў нядоўга. Морскія зьвяры або былі выбітыя, або спуджаныя паўцякалі і палярнае места раптоўна апусьцела. Цяпер толькі астаткі будоўлі сьведчаць аб даўнейшай славе. Саветы ўваскрасілі крыху старыя традыцыі, будуючы на востраве Рудольфа базу для самалётаў. Вернемся аднак да XVI і пачатку XVII стагодзьдзя. Адначасна з паляваньнем на кітоў Англія, Голяндыя і Данія высылалі экспэдыцыі дзеля далейшага шуканьня тае самае дарогі. І толькі пасьля кругасьветнага падарожжа Магэляна і адкрыцьця вельмі далёкай, але даволі бязпечнай дарогі да Індыі на паўдні Амэрыкі гаспадарствы заходняе Эўропы выкарыстоўвалі яе і пакінулі дасюлешнюю справу. Зноў замоўкла палярнае мора. Толькі нарвэскія і расейскія купцы і паляўнічыя пускаліся за здабычаю, прычым расейцы пасоўваліся далёка на ўсход, але толькі на адносна невялікіх лодках. Ды ня было ў іх патрэбы імкнуцца бяз упынку да далёкай Азіі, бо мелі даволі прастору і багацьцяў у сябе, асабліва ў сьвежа падбітай Сібіры.

Толькі Пётра I Вялікі, які задумаў зрабіць з Расеі морскую дзяржаву і з гэтаю мэтаю сам вучыўся карабельства ў Галяндыі — увёў Расею ў круг гаспадарстваў зацікаўленых палярнымі краямі. Ён-жа незадоўга да свае сьмерці ў 1725 г. высылае першую расейскую экспэдыцыю пад кіраўніцтвам слаўнага Берынга — данца ў расейскай службе.

З увагі на асаблівыя варункі гэтага падарожжа і вялікае значэньне яго для навукі, прысьвецім яму больш увагі і мейсца.

(Далей будзе).

**Н. Г.**

---

МІХАСЬ ВАСІЛЁК

* * *

Жытцо зьвісла на серп сьпелым коласам.
А прыпаўшы грудзьмі да зямлі,
Прычытала старэнькая голасам,
Што дарожкі сынка замялі.

Зоркі неба разорылі поўначчу —
Ніклі ў муць на гусіным шляху.
— Ты, матулька, ня жджы, рукі ломячы,
Познай ночкай дзянькоў не рахуй.

Знаю, знаю — карміцель адзіны ён,
Знаю й гэта, што пойдзеш у сьвет,
Будзеш сьніць яго вочы арліныя,
Слаць яму свой жабрачы прывет.

Шмат апала лісьця жоўтай восеньню
Пад разьюшаны сьвіст віхуры.
Ці сьмяялася неба ім просіньню
Запытаць мо' ў панурым бары?...

Ды ня ў пышных мурох гора родзіцца,
Зрэбным тварам кашулі глядзіць...
Тых, што лёс б'е у твар галалёдзіцай,
Сяньня песьняй іду весяліць!

Мала песьні, і сэрца кіпучае
Зьлью ў адзін прамянеючы рытм,
Супачынем мы толькі, прарочу я,
У абняцьцях румянай зары.

# САМААДУКАЦЫЯ.

Пачаткавая граматнасьць ня ёсьць мэтай хатняга навучаньня, хаця ўжо навык чытаньня і пісьма, набыты заняткамі па буквару, ня раз прыдасцца ў жыцьці і не застанецца бяз уплыву на сьветагляд вучняў. За першым, так важным высілкам вучняў трэба пачынаць далейшую работу над фармаваньнем іх духовага „я“, над іх усьведамленьнем у шырокім значэньні гэтага слова. Як-ж дапяць гэтага? Як вызначаюцца межы, шляхі і мэты гэтае працы, каб яна ня была пустой стратай часу, а сталася новым духовым здабыткам чалавека і стварыла моцныя падставы дзеля далейшае будовы сьветагляду і патрэбных у жыцьці навыкаў ды праз тое прычынілася да падняцьця культуры нашага народу?

На наш пагляд, праца на гэтай ступені самаадукацыі павінна пайсьці ў такім кірунку:

I) пашырэньне і ўзмацаваньне навыку чытаньня,
II) далейшае разьвіцьцё навыку пісьма,
III) разьвіцьцё вуснае мовы,
IV) далейшае вывучэньне лічбаў і
V) набыцьцё элемэнтарнае веды з некаторых галінаў навукі.

Раней, чым разгледзіць паасобку кожын з гэтых працэсаў, трэба прадыскутаваць некаторыя агульныя пытаньні, іх датычачыя.

**Ці помач вучыцеля на гэтай ступені патрэбная абавязкава?** Помач вучыцеля ці „дырэктара“ вельмі патрэбная. Адзін буквар яшчэ ня даў вучню добра выпрацаванага навыку чытаньня, а пісьмо, як працэс больш складаны і труднейшы, у яго асабліва адстае. З арытмэтыкі-ж вывучэньне першага дзесятку ці да 20-х, гэта толькі пачатак дарогі, — дарогі вялікай. Наагул, вучань яшчэ ня прывучаны да працы з кніжкаю ці па кніжцы, ня мае пэўнасьці ў рабоце і вельмі лёгка можа зьбіцца на фальшывую дарогу. Калі так, дык вучыцель вельмі патрэбны, і перад ім разьвернецца шырокае поле для сяўбы. Найважнейшае — гэта паказаць пэўныя прыёмы работы, даць правільны кірунак усім заняткам, паставіць — як гаворыцца — на ногі, прабудзіць цікавасьць і ахвоту да кніжкі. Разумеецца, чым вучыцель сам больш дасьведчаны і адукаваны, тым вялікшую прынясе і карысьць. Але калі ён нават і з невялікім дасьведчаньнем, асабліва калі ён не самавук, а вучыўся ў школе, дык хоць і ў меншай меры, але будзе карысны для сваіх вучняў, паколькі рознымі ўвагамі і пытаньнямі будзе выклікаць зацікаўленасьць работаю, будзе памагаць разьбірацца ў матар'яле, кантраляваць працу і г. д.

Хаця дадзены артыкул прысьвечаны „самаадукацыі“, аднак у ім маецца на ўвазе пераважна праца з вучыцелем. Гэта дзеля таго, каб не паніжаць навуковага роўня нашых заняткаў, каб хатняе навучаньне сапраўды заступіла нам родную школу, каб шырэй фармуляваць мэтадычныя вымаганьні, якія абавязкавы ня толькі ў школе, але і пры хатнім навучаньні. Хай сапраўдныя „самавукі“ самі дастасоўваюцца па магчымасьці да нашых выясьненьняў і трэбаваньняў, беручы з іх

тое, што ім пад сілу, калі хто азнаёміць іх з гэтым артыкулам. Вельмі хацелася-б беспасярэдна памагчы „самавукам“, але як ім наказаць гэта на пісьме, калі некаторыя з іх мо' ледзь яшчэ чытаюць?

**Асноўны прынцып навучаньня.** Усё навучаньне ад пачатку да канца павінна быць пабудавана на прынцыпе самадзейнасьці. Вучыцель толькі кіруе работаю, дапамагае, наводзіць, папраўляе, а ўсю работу прарабляе сам вучань, грунтуючыся на папярэднім ці раней здабытым матар'яле. Такі падыход да працы вымагае з боку вучыцеля асаблівага напружаньня, вытрыманасьці, увагі і цярплівасьці, але гэта ёсьць адзіны правільны і найбольш прадуктыўны шлях навучаньня.

**Парадак навучаньня.** Усе заняткі трэба падпарадкаваць нейкаму пляну і вясьці раўнамерна. Ня можна, напрыклад, ўсю ўвагу зьвярнуць на чытаньне, а іншыя часьці праграмы закінуць. У пачатковым навучаньні ўсе працэсы зьвязаны найцясьнейшаю сувязьзю, адзін аднаму памагаюць, адзін аднаго дапаўняюць. Нормальным прадстаўляецца такі парадак, калі кожны дзень ідуць практыкаваньні з усіх аддзелаў праграмы, і калі ўсе яны між сабою больш-менш зьвязаны. Напр., тое, што чытаецца, можа быць матар'ялам і для пісьма і для разьвіцьця навыку вуснае мовы, таксама можа зьмяшчаць у сабе мамэнты, важныя з пункту гледжаньня прыродазнаўчага, географічнага, нават матэматычнага (ў кожнай зьяве можна знайсьці старану матэматычную) і г. д.; выкарыстаць гэтыя мамэнты, захоўваючы пэўную меру, будзе таксама пажаданым. Перад кожнай лекцыяй вучыцель павінен пераглядзець увесь матар'ял, які будзе распрацоўваць з вучнямі, і пабудаваць пэўны плян работы, інакш яна можа выйсьці хаотычнай і ня дасьць усяе карысьці.

**Падручнікі.** Дзеля гэтай другой ступені навучаньня мы радзім ужываць вось якія кніжкі, каторыя можна дастаць у Вільні:

а) для чытаньня: „Родны край“ ч. ч. I і II і „Беларуская школа“;
б) для пісьма і разьвіцьця вуснае мовы: „Пішы самадзейна“;
в) для арытмэтыкі тыя самыя падручнікі, якія ўжо рэкамэндаваны ў № 8 „Беларускага Летапісу“ (артыкул „Хатняе навучаньне“) і
г) для лекцыяў з прыродазнаўства, пачаткавае географіі і інш. вучыцель можа карыстацца падручнікамі ў чужых мовах, — бо для гэтае ступені навучаньня сыстэматычных курсаў з гэтых галінаў веды тут у нас у беларускай мове няма; існуючая ў нашай мове невялічкая прыродазнаўчая бібліятэка пақазана ў №№ 1 і 2 новага беларускага часапісу для дзяцей пад назовам «СНОПОК»; гэты журнал, наагул маючы багаты зьмест, рэкамэндуецца асаблівай увазе ўсіх дзяцей і моладзі; ён выходзіць што месяц і каштуе 1 зл. у год; падпіску пасылаць на адрэс: Варшава (4), вуліца Парыска № 27.

Памоцнай пры занятках географіяй можа быць карта „Паўкулі“ пабеларуску, — купіць можна ў беларускіх кнігарнях.

## Чытаньне.

Мэтай ўсіх заняткаў чытаньнем на другой ступені павінна быць выпрацаваньне навыку правільнага, больш-менш свабоднага

і хуткага, а перадусім сьведамага чытаньня беларускага друкаванага слова. Ня трэба гнацца за тым, каб у кароткі час навучыць хутка і свабодна чытаць. Тэхніка чытаньня выпрацоўваецца гадамі ў залежнасьці ад таго, як шмат хто чытае. Найважнейшае — гэта каб чытаць сьведама, значыць, з разуменьнем, зьвязваючы з кожным словам яго значэньне, — тое значэньне, якое зьвязваюць з ім усе, калі чытаюць ці гавораць. Каб вучань чытаў сьведама, трэба напачатку дакладна выпытаць у яго зьмест таго, што чытаецца, ставячы пытаньні амаль на кожнае слова: хто? што робіць? дзе? калі? каму? які? з кім? чаго? і т. п. З працягам часу пытаньні вучыцеля будуць менш і менш падрабязнымі; у канцы толькі агульнымі, абыймаючымі некалькі асобных сказаў або пэўныя часткі стацьці. Так паступова будзе выпрацоўвацца навык абыймаць галоўны зьмест таго, што чытаецца, адначасна з разьдзяленьнем на часьці, калі гэта ёсьць апавяданьне, або на паасобныя вобразы, калі гэта ёсьць вершы. Вывядзеньне галоўнага зьместу або і д э і дадзенага твору праводзіцца абавязкава самымі вучнямі — пры помачы вучыцеля. Для лепшага зразуменьня зьместу вельмі карысна паўторнае чытаньне твору як у цэласьці, так і часткамі.

Што да тлумачэньняў вучыцеля падчас чытаньня, дык — як правіла — трэба высьцярагацца даваць шмат, прытым — доўгіх тлумачэньняў. Трэба з самага пачатку так паставіць справу, каб вучні самі пыталіся ў вучыцеля, калі чаго не разумеюць. *Наагул заняткі чытаньнем павінны мець характар жывой і свабоднай гутаркі вучыцеля з вучнямі аб кожным прачытаным апавяданьні ці вершы; падчас гэтае гутаркі пытаньні і адказы даюцца аднолькава як вучыцялем, так і вучнямі.*

Увесь час навучаньня вучыцель павінен сачыць за д ы к ц ы я й вучняў, г. ё. спосабам вымаўляньня імі таго, што чытаецца ці гаворыцца, каб вучань заўсёды і чытаў і гаварыў ясна, выразна, з пэўнымі адценямі голасу і прыпынкамі ў адпаведных мясцох. Што да вершаў, дык пажадана, каб вучыцель даваў у з о р ы чытаньня вершаў, выклікаючы пэўныя пачуцьці ці настроі ў вучнях. Трэба, каб усе вершы вучнямі па магчымасьці вучыліся напамяць, бо гэта ёсьць найлепшы спосаб выпрацаваньня мовы.

Вельмі добра практыкаваць ілюстраваньне прачытанага свабоднымі малюнкамі вучняў, асабліва калі да гэтага ёсьць здольнасьці. Падгатоўкай могуць да пэўнай меры служыць малюнкі, зьмешчаныя ў канцы кніжкі „Пішы самадзейна“.

## П і с ь м о.

Пісьмо мае ня меншае ўзгадаваўчае і практычнае значэньне, як і чытаньне, і дзеля гэтага ў раскладзе заняткаў павінна кожын дзень знайсьці для сябе месца.

У пісьме адрозьніваюць тры стараны: тэхніку пісьма, правапіс або артаграфію і зьмест, уложаны ў пэўную слоўную форму. Самая важная стараня — трэцяя, але на данай ступені навучаньня на першы плян высоўваецца тэхніка і правапіс.

Тэхніка дасягаецца практыкаваньнямі ў пісьме. Чым больш практыкаваньняў, тым хутчэй ідзе разьвіцьцё тэхнікі пісьма. Практыкаваньні павінны йсьці ў пэўнай паступовасьці. Спачатку вызначаецца

пісьмо паасобных слоў, а посьле кароткіх і — далей — больш ці менш складаных сказаў. Засьцярагаем, каб ніводнае з практыкаваньняў ня было толькі „пісьмом для пісьма“, а кожнае, нават найпрасьцейшае, было адначасна выражэньнем пэўных думак, найлепш сваіх уласных.

Напачатку пісьмо слоў заўсёды будзе толькі сьпісваньнем, і вось трэба пільна сачыць, каб дзеці прывучаліся сьпісваць не паасобку букву за буквай або па складох, а пісалі трымаючы ў памяці цэлае слова. Каб вучань пры гэтым не рабіў памылак, трэба практыкаваць т. зв. гукавы дыктант, падчас якога кожнае слова раскладаецца на ўваходзячыя ў яго гукі, пасьля чаго яны запісваюцца буквамі ў тым парадку, у якім ідуць ў слове.

Ня трэба дамагацца ад пачынаючых вучняў прыгожага і роўнага пісьма букваў ці слоў; гэта прыйдзе з часам; на данай ступені важна, каб вучань пісаў кожную букву перадусім правільна, каб не прапускаў ці не перастаўляў букваў у словах. Пісаць трэба спачатку бяз лінеек, пасьля па аднэй лінейцы, потым між дзьвёх, напасьледак, калі рука ўжо добра выпрацуецца, зусім бяз лінеек, як пішам мы, дарослыя.

Што да артаграфіі, дык на гэтай ступені ня можа быць вывучэньня *граматычных* падстаў правільнага пісьма. Яно вывучаецца выключна шляхам практычных высьненьняў на пэўных прыкладах. Прынцып *папярэджаньня памылак* павінен знайсьці самае шырокае прыстасаваньне. Лепш адзін раз папярэдзіць памылку, калі вы ведаеце, што вучань яе зробіць, чым посьле чысьленымі практыкаваньнямі выкараняць няправільны сьлед, пакінены ў памяці вучня першым няправільным напісаньнем данага слова.

З ліку *артаграфічных* практыкаваньняў мы рэкамандуем толькі сьпісваньне (найлепш з пісьменнага тэксту) і — радзей — дыктант, злучаны абавязкава з папярэджаньнем памылак. Сьпісваньне павінна быць сьведамае, дзеля чаго раней чытаецца і — дзе трэба — тлумачыцца ўвесь тэкст. Сьпісваць трэба — яшчэ раз падчырківаем — цэлымі словамі і сказамі. Работу вучні выконваюць не сьпяшаючыся, акуратна і чыста.

Найбольшае аднак значэньне між усімі практыкаваньнямі маюць самастойныя стылістычныя практыкаваньні вучняў, падчас якіх разьвіваецца і тэхніка пісьма і вывучаецца правапіс. Ёсьць шмат розных відаў гэтых практыкаваньняў, ад найпрасьцейшых да больш складаных, ад зьвязаных з іншымі заняткамі, асабліва з чытаньнем, да зусім самастойных. На гэтым мейсцы няма магчымасьці ўсе іх пералічыць і паказаць, як кожнае праводзіць з вучнямі. Адсылаем усіх жадаючых да кніжкі „Пішы самадзейна“, дзе сабраны адумысныя практыкаваньні для самастойнага пісьма — у парадку іх большай ці меншай труднасьці. Ёсьць там практыкаваньні ў сувязі з пэўнымі артыкуламі, ёсьць практыкаваньні і на падставе малюнкаў, якія так падабаюцца дзецям. Апрача гэтае кніжкі, трэба вызначаць практыкаваньні, зьвязаныя з жывым нагляданьнем прыроды і жыцьця чалавека, асабліва дзяцей. Больш падрабязна абгаварыць гэтае пытаньне хіба можна будзе другім разам.

## Разьвіцьцё вуснае мовы.

Ня ў кожнага нават з прафэсыянальных вучыцялёў зьвязваецца з гэтымі словамі выразна азначаная думка ці паняцьце. Такога прад-

мету ў пляне вучэньня ніколі ня было, але патрэба яго заўсёды адчувалася, доказам чаго ёсьць чысьленыя падручнікі. Што гаварыць аб дзецях, калі часта дарослыя, нават добра граматныя людзі ня ўмеюць, як гаворыцца, „зьвязаць двох слоў“. Чаму так? Вельмі проста: іх гэтага ня вучылі, ніхто на гэта не зварочваў увагі.

Могуць сказаць, што разьвіцьцё вуснае мовы йдзе на кожнай лекцыі, перадусім на лекцыях чытаньня і пісьма. Гэта так, і мы ня вельмі настайваем на асобных лекцыях разьвіцьця вуснае мовы, але *ў кожным разе такія адумысныя заняткі абавязкава павінны знайсьці для сябе мейсца ў кругу самаадукацыі.* Якая-ж іх бліжэйшая мэта? *Навучыць дакладна, лёгічна і правільна — граматычна выражаць у слове свае думкі.* Навучаньне гэтае вельмі важнае ня толькі ў жыцьці практычным, але і наагул у працэсе ўсяго мысьлёвага разьвіцьця чалавека. З другога боку, такія заняткі будуць практычным уступам да вывучэньня — на далейшых ступенях самаадукацыі — граматыкі беларускае мовы, без чаго запраўднага і поўнага вывучэньня мовы ня можа быць.

Адзіны беларускі падручнік, які надаецца да гэтага роду заняткаў, ёсьць тая-ж кніжка „Пішы самадзейна“, з дадаткам для вучыцялёў: „Мэтадычныя ўвагі да пасобніка „Пішы самадзейна“ (гэтая кніжачка Міністэрствам Асьветы дапушчана ў вучыцельскія бібліятэкі пачатковых школаў з беларускаю моваю навучаньня).

У гэтым артыкуле няма магчымасьці ўсебакова распрацаваць закранутае пытаньне. Можна толькі адзначыць некалькі асноўных мамэнтаў, якія павінны знайсьці сабе мейсца пры гэтых занятках, гэта:

а) правільная граматычная будова паасобных сказаў. Ужываючы прынятую граматычную тэрміналёгію, мы павінны прывучаць вучняў, каб у паасобных сказах заўсёды давалі — на пытаньні — дзейнік і выказьнік, а дапаўняючыя іх словы ставілі кожнае на сваім мейсцы, напр., азначэньне каля назову прадмету, дапаўненьне за дапаўняным словам, таксама розныя акалічнасьці і г. д.;

б) разьмяшчэньне сказаў паводле іх унутранай лёгічнай, хроналёгічнай (паводле часу) і топаграфічнай (паводле месца) сувязі і

в) уменьне даваць ясныя і дакладныя адказы на пастаўленыя пытаньні.

Матар'ялам для ўсіх гэтых практыкаваньняў могуць служыць празаічныя стацьці, чытаныя з вучыцялем. Але найлепш — гэта праводзіць гутаркі на падставе малюнкаў у кніжках ці наглядаючы якія-колечы жывыя прадметы ці дзеяньні, асабліва розныя жывёлы, якіх дзеці так любяць.

Вусныя практыкаваньні вельмі пажадана канчаць пісьменнымі працамі ў сувязі з тым, што распрацоўвалася вусна: адказы на пастаўленыя адно ці некалькі пытаньняў, укладаньне сказаў — кароткіх ці поўных, кароткія ці поўныя пераказы прачытанага і т. п.

Каб вучыцель мог добра вясьці гэныя заняткі, павінен сам ведаць граматыку і сынтакс беларускае мовы. Ці маеце вы „Граматыку“ Тарашкевіча і „Сынтакс“ Лёсіка?

## Вывучэньне нумэрацыі лічбаў у межах 20 — 100 і лічбаў кожнае велічыні

можна пачынаць толькі тады, калі вучань добра апанаваў будову лічбаў да 20-х, разумее значэньне кожнага арытмэтычнага дзеяньня і свабодна рашае задачы на ўсе дзеяньні. Азнаямленьне з далейшай нумэрацыяй трэба даць спачатку ў межах ад 20 да 100. Тут таксама, як і на першай ступені, трэба карыстацца канкрэтнымі прадметамі (бабы, пруточкі, фасоля), наглядна паказваючы, што, як мы рахуем адзінкамі, таксама можна рахаваць і дзесяткамі, але тады лічбы атрымоўваюць новыя назовы: трыццаць... сорак... пяцьдзесят і г. д. Трэба вытлумачыць гэтыя самыя назовы і практыкаваць у чытаньні і пісьме лічбаў, якія складаюцца з дзесяткаў і адзінак. Пры вывучэньні многазначных лічбаў трэба, каб дзеці добра зразумелі значэньне кожнага мейсца, якое займаюць цыфры. Рознага роду рахункі пажадана якнайбольш рабіць у памяці: у жыцьці людзі радзей карыстаюцца паперай.

Некаторыя мамэнты, дзеля іх значэньня, вымагаюць асабліва добрае распрацоўкі з боку вучыцеля. Так —

а) розьніца выражэньняў: адна лічба больш ці менш за другую *„ў колькі разоў“* і *„на колькі“* (адзінак, дзесяткаў...)? — таксама розьніцу паняцьцяў: вышэй — ніжэй, вузей — шырэй, даўжэй — карацей... у колькі разоў? на колькі?
б) табліца множаньня праходзіцца не адразу ўся, а часткамі. Трэба на конкрэтных прадметах паказваць, што гэта значыць: тры разы па восем... пяць разоў па сем... сем разоў па пяць і г. д.; мэханічна завучываць табліцу можна тады толькі, калі яна ўжо ўся добра распрацована і ўсьведамлена;
в) практыкаваць у лічэньні парамі, тройкамі, пяткамі, дзесяткамі і г. д. — на лісьцях, гарэхах, семячках і інш;
г) даць паняцьце аб найпрасьцейшых дробах: $^1/_2$, $^1/_4$, $^1/_8$, $^1/_3$, $^1/_5$ і др.;
д) азнаямленьне з мэтрычнымі мерамі і іх абазначэньнямі (м. см. км. һа. l) а такжа з некаторымі ўжыванымі на вёсцы мэрамі (вярста, валока, дзесяціна, пуд, фунт);
е) даць паняцьце аб квадраце, трыкутніку, чатыракутніку... аб паземнай і стацьцёвай лініі і пад.

Усё вывучэньне павінна вясьціся шляхам самастойнага нагляданьня, жывога дасьведчаньня на рэальных прадметах, якія акружаюць дзяцей. Хай вучань сам, сваімі рукамі, сваімі вачыма ўсё і ў гародзе, і на панадворку і г. д. вымерыць, пералічыць, перабярэць. Хай сам, зрабіўшы адпаведныя меркі (мэтр, сантымэтр) вымерыць стол, за якім сядзіць, хату, у якой жывець, загон, на якім яго бацька гарэць і г. д. Пачынаць трэба заўсёды на рэальных прадметах і толькі пасьля гэтага можна пераходзіць да тэарытычных ці адарваных рахункаў і задачаў.

**С. Паўловіч.**

(Далей будзе).

С. ГАРОТНЫ.

## НЕ ЎЗДЫХАЙ!..

Не сумуй, не бядуй, не ўздыхай!
Тыя дні, што прайшлі, толькі сумны прадсьпеў
Да паэмы жыцьцёвых дарог.
Ў глыбі сэрца схавай
Боль душы, жаль і гнеў
І да новых ідзі перамог!

Прыйдуць лепшыя дні, дні вясны залатой...
Пераможная песьня ў прасторы ўзьляціць,
Заруніцца красою наш край...
Аб тэй хвілі сьвятой
Хай душа твая сьніць!
Йдзі наперад, ня плач, не ўздыхай!

29.VIII.37 г.

# Беларускі Нацыянальны Камітэт кліча да асьветнай працы.

Беларуская культурна-асьветная праца посьле ліквідацыі нашых культурных арганізацыяў апынулася ў асабліва цяжкіх абставінах. Такое палажэньне нашай роднай асьветы было прадметам разгляду на спэцыяльным паседжаньні Беларускага Нацыянальнага Камітэту 14 верасьня г. г. Камітэт, як нацыянальная рэпрэзэнтацыя Беларускага Народу, прыняў наступную рэзалюцыю.

„Надзвычайны агульны сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні дня 14 верасьня 1937 г., разгледзіўшы сучаснае палажэньне беларускае асьветы ў граніцах польскае дзяржавы, сьцьвярджае наступнае.

1. Беларуская народная асьвета прадстаўляецца гэтак:
   а) пачаткавае навучаньне беларускіх дзяцей у дзяржаўных школах праводзіцца папольску,
   б) адзіная ў краі сярэдняя беларуская школа — Беларуская Філія дзяржаўнае гімназіі ім. Юл. Славацкага ў Вільні ня можа здаволіць патрэбы беларусаў у галіне народнае асьветы.
2. Беларусы дамагаюцца навучаньня сваіх дзяцей у роднай мове:
   а) дзеля пачаткавага школьнага навучаньня падаюць школьным уладам дэклярацыі за беларускую школу,
   б) дзеля навучаньня ў гімназіях і ліцэях просяць дзяржаўныя ўлады адчыніць адпаведны лік гэтых школаў і роўналежныя клясы пры школах існуючых, а так-жа робяць захады дзеля адчыненьня прыватных гімназіяў і ліцэяў.

3. Недастатак мэтодычнага школьнага навучаньня, беларускія народныя масы дапаўняюць самаасьветаю, культывуючы беларускае

слова, песьню і звычаі, а так-жа цікавячыся здабыткамі і падзеямі ва ўсім сьвеце.

4. Агульны сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту сьцьвярджае так-жа, што беларуская моладзь (у вялізарнай большасьці) на шляху здабываньня вышэйшай асьветы спатыкаецца з непаканальнымі перашкодамі матар'яльнага характару.

Бяручы пад увагу вышэйсказанае, Беларускі Нацыянальны Камітэт заклікае ўсё беларускае грамадзянства далей:

1. Усімі спосабамі дамагацца для дзяцей сваіх *беларускіх* пачатковых школаў.

2. У справе сярэдняга школьніцтва — прадстаўляць і далей адносным уладам Польскае Дзяржавы патрэбы гэтага школьніцтва з дамаганьнем адчыненьня гэтых школаў на кошт дзяржавы, а такжа прыступаць да арганізаваньня прыватных беларускіх гімназіяў і ліцэяў.

3. У галіне зашкольнай асьветы — наладзіць фаховую помач у самаадукацыі шырокіх беларускіх масаў.

4. Дзеля падтрыманьня незаможнай, але здольнай беларускай моладзі вышэйшых, сярэдніх і прафэсыянальных школаў наладзіць супольную шырокую акцыю зьбіраньня матар'яльнай дапамогі".

За сход Камітэту — Прэзыдыюм:

(—) Інж. *А. Клімовіч*
Старшыня

(—) Мэц. *Ф. Стэцкевіч*
І-шы віцэ-старшыня

(—) Д-р *Ст. Грынкевіч*
ІІ-гі віцэ-старшыня

(—) *Мік. Манцэвіч*
Скарбнік

(—) *Ян Пазьняк*
Секрэтар

# Рымская „культура" ў Абісыніі.

*(Факты з пісьма імпэратара Абісыніі).*

Пераможца, які бязпраўна захапіў чужую тэрыторыю і накінуў путы няволі слабейшаму народу, заўсёды дае тлумачэньне, падводзіць маральную базу, каб апраўдаць свой паступак. Такою «базаю», або інакш кажучы дымавою заслонаю перад публічнай апініяй сьвету, найчасьцей выстаўляецца цывілізацыйна-культурная місыя.

Не так даўно італьянскі дыктатар Муссоліні выступіў у ролі «культураносца» адносна Абісыніі. Усе здабычы эўрапейскае вайсковае тэхнікі былі кінуты ў імя так званай «культуры і цывілізацыі» проці ні ў чым не вінаватага, але малакультурнага, першабытнага абісынскага народу. Адвага і ахвярнасьць абісынцаў ня выратавала іх ад няволі. Самалёты, танкі, кулямёты, арматы, газы задушылі незалежную дзяржаву, якая і дагэтуль яшчэ лічыцца членам Лігі Народаў. Міжнароднае права, трактаты, пакты, здаецца, страцілі абавязваючую сілу, а зьяўляюцца толькі матар'ялам для дыплёматычнай дэклямацыі. Аб тым, як разгарнула ў Абісыніі «культурную працу» Рымская імпэрыя, расказвае Гайле Сэлясі, імператар Абісініі, ў мэморыяле, зложаным усім хрысьціянскім Царквам. („Слово" № 39 Варшава).

Так у м цы лютым г. г. у Адіс-Абэбе было знішчожана многа тысяч жыхароў, як помста за тое, што нехта кінуў бомбу ў генерала Граціані. Соткі мужчын, жанчын і дзяцей забіты італьянскімі салдатамі, якія не нясуць за гэта ніякай кары. У розных гарадах і вёсках растрэльваюць соткі жыхароў за тое, што недзе зьяўляюцца абісынскія партызаны. Ваенныя суды аддалі на кару сьмерці тысячы людзей. Катаваньне пленных, казьнь раса Дэсты і афіцэраў абісынскай арміі, папаўшых у палон на палёх бітвы, — жудасныя факты, якія ня маюць роўных у новай гісторыі народаў. Але самае страшнае і самае агіднае, што змог прыдумаць італьянскі фашызм дзеля пацехі сваіх прэторыянцаў — гэта концэнтрацыйныя лягеры і дамы распусты, куды прымусова забіраюць дзяўчат і маладых удоваў няшчаснай Абісыніі. З гэтаю мэтаю італьянскія дахтары маюць права прыйсьці ў кажды дом, зрабіць мэдычны агляд маладых жанчын, якія после гэтага, як простытуткі высылаюцца ў жаночыя лягеры і дамы распусты.

Не абмінулі італьянскія «хрысьціяне» сваімі гвалтамі і рэлігію абісынцаў. Так, забіта многа сьвяшчэньнікаў і мусульманскіх шэйкаў посьле замаху на ген. Граціані. Ахвяр масавых растрэлаў паліваюць нафтаю і паляць, як сьмяцьцё; сваякам забараняецца забіраць і хаваць трупы паводле хрысьціянскага абраду. Як рэпрэсія проці народу, які ня хоча аддаваць сваю незалежнасьць, зруйнаваны катэдральны Сабор Сьв. Юрага ў Адіс-Абэбе і многа іншых старадаўніх сьвятыняў у краі. Галава Абісынскай Царквы Абуна (мітрапаліт) Пётра публічна закатаваны ў Адіс-Абэбе ў ліпені м-цы г. г. за тое, што адмовіўся выпаўніць акт падпарадкаваньня італьянскім уладам і не схацеў адлучыць ад Царквы тых абісынцаў, якія адмовіліся прызнаваць уладу пераможцаў.

У пісьме сваім Гайле Сэлясі спадзяецца што ўсе хрысьціянскія народы падтрымаюць Абісынскую справу малітвамі і публічна асудзяць злачынствы і гвалты, якія тасуе італьянская армія да нявіннага насельніцтва...

Такую „культуру“ нясе Муссоліні падбітай і цёмнай Абісыніі..

---

# Сьмерць Барыса Клецкіна.

18 верасьня памёр у Вільні Барыс Клецкін. Радзіўся ён у м. Гарадзішча ў Наваградчыне, у 1875 г. Яшчэ перад вайной атрымаў у спадчыне па бацькох вялікія багацтвы і залажыў у Вільні „Віленскае Выдавецтва Б. Клецкіна“, каторае выдавала апошнімі гадамі каля 200 жыдоўскіх кніжак у год. Выдаваў ён таксама кніжкі польскія і беларускія. Нябошчык выдаў каля 30 адборнай якасьці большых беларускіх кніжак і гэтым добра заслужыўся для справы беларускага друку.

Віленскае Выдавецтва Б. Клецкіна абы чаго не выдавала. Калі ходзіць аб выданьні беларускія, дык гэта або творы найлепшых беларускіх талентаў Коласа, Багдановіча, Ядвігіна Ш., Арсеньневай і інш, або творы перакладзеныя на беларускую мову эўрапэйскай славы пісьменьнікаў — Л. Талстога, Марка Твэна, Гогаля, Караленкі, Купрына і інш., або цэнныя школьныя падручнікі — Географія Беларусі, Гісторыя Беларускай Літаратуры, Хрэстаматыя Беларускай Літаратуры, Беларускі правапіс, школьныя чытанкі, арытмэтычныя за-

дачнікі, або ў канцы добрыя папулярныя кніжкі да самаасьветы „Разказы аб вялікіх падзеях розных часоў і народаў“ — Рубакіна, „Апавяданьні аб жывёлах“ — Вагнэра і г. д.

Як бачым, дзейнасьць гэтага высокай культуры чалавека мае важнае для нас культурнае значэньне і тымбольшае, што яно рэзка выдзяляецца на фоне зусім іншых адносінаў да беларускага народу жыдоўскага заможнага грамадзянства нашых зямель, каторае, зьбіраючы сабе рознымі спосабамі багацьці з нашага народу, адначасна заўсёды выслужывалася сільным гэтага сьвету таго ці іншага рэжыму. Падтрымліваючы і пашыраючы тую ці іншую „пануючую“ мову на беларускіх вёсках і мястэчках, вялі заўсёды адносна беларусаў работу вынарадаўленьня ў тым ці іншым кірунку.

Барыс-жа Клецкін друкаваў і кідаў на беларускія вёскі дзесяткі тысяч беларускіх кніжак, разам з імі кідаў у цемру зерні культуры, веды і сьвятла.

Помнячы аб тым, над сьвежай магілай Барыса Клецкіна — чалавека вялікай грамадзкай культуры і сумленьня — з сумам і жалем схіляем галаву.

# Наша хроніка.

*** **Дзень Беларускай Культуры** пастаноўлена сьвяткаваць у гэтым годзе 28 лістапада. Падрыхтоўка да Акадэміі і канцэрту на гэты Дзень ужо распачалася.

*** **Суды**. 9 верасьня адбыўся Акружны Суд над паэтам М. Танкам і выдаўцом В. Труцько за зборнік поэзіі «На этапах». Гэты зборнік канфіскаваны 25 ліпеня 1936 г. за некаторыя вершы. Акт абвінавачаньня закідаў падсудным падбурэньне люднасьці і адарваньне ад Польшчы. Абаронца ведамы адвакат праф. К Петрусэвіч даводзіў, што вершы, на якія паклікаецца акт абвінавачаньня ня маюць падбураючых заклікаў, што гэта звычайная поэтыцкая сымболіка, якая часта спатыкаецца ў клясычнай поэзіі іншых народаў. («Кинжал», верш М. Лермонтава і інш.) Ня гледзячы на тое, што пракурор дамагаўся суровай кары, Суд абодвых абвінавачаных апраўдаў. Пракуратура зложыла апэляцыю.

На 20 кастрычніка была назначана ў Віленскім Гарадзкім Судзе справа гр. С, Паўловіча, як аўтара канфіскаванага беларускага лемантара да хатняга навучаньня «Zasiełki», надрукаванага лацінкаю. На прапазыцыю адваката Суд справу адлажыў і зажадаў ад пракуратуры канкрэтнага азначэньня ў акце абвінавачаньня, за якія мейсцы ці сказы лемантар сканфіскаваны.

*** **М. Забэйда-Суміцкі** 16 лістапада ў 19½ гадзін мае пяяць у Варшаўскім Радыё беларускія песьні: «Ой дожджык ідзе», «Кувала зязюлька», «Купалёнка», «Цераз сад вінаград» — К. Галкоўскага, «Малады дубочак» — Ст. Казуры і «Лявоніха» — Туранкова.

*** Беластоцкі **Тэатральны Беларускі Коопэратыў „Полымя“** меўся ставіць два спэктаклі 16 і 17 кастрычніка ў м-ку Гарадок каля Беластока. Прыгатаваны былі п'есы: «Пакой у наймы» і «На вёсцы», арганізавана струнная аркестра і хор. Падалі просьбу аб дазвол на спэктаклі,

але Беластоцкі Павятовы Староста прыслаў адмову, матывуючы тым, што ў гэтым часе і ў тымжа мейсцы «прамышляюць» ужо іншыя арганізацыі.

⁂ **Міністэрства Унутраных Спраў зацьвердзіла** пастанову Віленскага Ваяводы аб разьвязаньні беларускіх культурна-асьветных арганізацыяў — Т-ва Беларускай Школы і Бел. Інст. Гаспад. і Культуры. Гэтыя арганізацыі былі зачынены віленскімі адміністрацыйнымі уладамі ў канцы мінулага 1936 г.

⁂ **Студэнцкае жыцьцё.** — Разам з пачаткам заняткаў на Віленскім Унівэрсытэце пачаў сваю дзейнасьць і Беларускі Студэнцкі Саюз, ладзячы 23 кастрычніка сваю першую зборку—вечар. Вечар гэты адкрыў старшыня Саюзу А. Дасюкевіч, у прысутнасьці сябраў Б.С.С. і гасьцей; пасьля быў рэфэрат М. Шчорса і дэклямацыі, а між імі дэклямацыі М. Танка.

— 30 кастрычніка для завязаньня цясьнейшага знаёмства паміж новымі і старэйшымі сябрамі быў зладжаны таварыскі вечар з гарбаткай, жывой газэткай і танцамі.

— Прыплыў новых сябраў у Б. СС даволі значны, не глядзючы на розныя неспрыяючыя абставіны.

— На пачатку кастрычніка звольнілі з Пружанскай турмы абсольвэнта агрономіі Віленскага Унівэрсытэту, былога сябру БСС Піліпа Засіма. У турме прабыў ён больш двох месяцаў нібы за комунізм, хаця ў Вільні быў ведамы, як чалавек проціўлежных паглядаў.

— Яшчэ вясной Віленскі Ваявода не пазволіў „ze względów porządku publicznego“ для сябраў БСС насіць свае арганізацыйныя шапкі і наагул якія колечы вонкавыя адзнакі. Падобную забарону атрымалі і студэнты ліцьвіны.

— Студэнтаў у Віленскі Унівэрсытэт паступіла сёлета меней, як летась, а асабліва куды меней жыдоў. І так прыблізна на праўным факультэце на болей чым 200 прынятых ёсьць 9 жыдоў, на мэдыцыне на 120 — 13 жыд., на фармацыі на 50—4 жыд., на матэматыцы і прыродзе на 112—12 жыд., на гуманістыцы на 74—17 жыд., на аграноміі на 60 прынятых — ніводнага. Сярод прынятых, як і ў мінулыя гады, вельмі мала дзяцей сялянскіх.

## Паштовая скрынка.

А. Дубровіч. З малымі папраўкамі пойдуць у наступных нумарох вершы: „Я кідаю думкі“, „Мне песьні выліць хочацца“, Дзяўчыне“ і іншыя. Гэтыя вершы гавораць, што вы за апошнія часы шмат працавалі, як над языком так і над формай. Тыя вершы, якія Рэдакцыя залічыла да „слабейшых“, якія „яшчэ не надаюцца да друку“, („Безрабочы“ „Не хачу пяяць пра восень“, „Над шляхам сумна“, „К свабодзе“, „Восень“) не зьяўляюцца зусім непрыгоднымі. Яны напісаны правідлова, нават тэхнічня вытрыманы. Загана іх у тым, што яны пісаны з „лёгкай рукі“; тэму, якую ўжо шмат раз парушалі ў нашай паэзіі, аўтар не пастараўся з'індывідуалізаваць, даць нешта новае. Гэтыя вершы належаць да катэгорыі малады старыкоў, аб іх можна сказаць, што яны не благія, але спозьненыя на 20—30 год; таму трэба іх перапрацаваць на нова. Добра што гэтыя недахопы вы і самі бачыце. Яшчэ трэба было-б кінуць пісаць „аб нічым“, праўда гэта пакуль што пагалоўная эпідэмія ў нашай сяньняшняй літаратуры, і з ей ня толькі Вам, але трэба змагацца усім.

Вайцелёнак Фабіян. Радзіць ці пісаць Вам вершы ці не — пакуль што рызыкоўна, асабліва калі ўзяць пад увагу Вашы карэспандэнцыі з работніцкага жыцьця, якія стаяць досыць на высокім роўні. Верш Ваш яшчэ сухі, мала ў ім вобразнасьці, а мяйспамі неапанаваная тэхніка самога вершу змушае Вас рабіць непатрэбныя скароты, або штучныя „наросты“, якія псуюць мову вершаў. Магчыма, што дзякуючы тэй энэргіі, з якой Вы працуеце над сабой, удасца Вам перамагчы і гэтыя недахопы.

М. Т-к.

# БУЛЬБА.

*Народны танец.*

Allegro. Аранж. А. ЕЎЦА.






Гарні, гарні бульбу з печы
У торбачку ды на плечы,
Гарні, гарні ды нясі
Толькі болей не прасі.

Трам, там, там...

З бульбы мука з бульбы каша,
Прападзі ты доля наша.
Адзін лапаць другі бот,
А я шляхціц далі-бог!

Трам, там, там...

Хоць да полькі ногі тонкі,
Да кадрылі ногі крывы,
А як popстануць ў дуду йграць
Ног ня можна устрымаць.

Трам, там, там...